незалежная газета

№ 25 (719) 6 ліпеня 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

epam

**Беларускія Білы Гейтсы: гісторыя поспеху**

Старонка 4



**Культавы ультраправы аўтар з Барысава**

Старонка 12



**Лётай, як матылёк, джаль, як пчала**

Старонка 6

# Майстры баявога пшыку



АНТОН МАТОЛЬКА

Пярцовым газам проста ў твар: брутальны «Дзень Незалежнасці» 3 ліпеня ў Мінску. Старонка 2.

Тэндэнцыі

## Свята з газам на вачах

3 ліпеня ў Мінску і Гродне адбыліся масавыя затрыманні апладзіруючых працаўнікаў Лукашэнкі.

На жыхароў сталіцы, якія моўчкі сабраліся на Прывакзальнай плошчы, палявалі дзясяткі тыпаў у цывільным. Людзей хапалі за рукі і ногі і закідвалі ў аўтазакі.

### Сустрэча на вакзале

Месцам правядзення акцыі была абвешчаная Прывакзальная плошча. На заклік інтэрнэт-арганізатараў адгукнуліся сотні чалавек. Многія людзі выйшлі сем'ямі, з дзецьмі.

«Парадам» кіравалі сумнавядомы начальнік мінскай міліцыі палкоўнік Яўсееў і ягоны памочнік маёр Грышчанка.

Працяг на старонцы 3.

## Самы дзіўны парад

Без апладысментаў. Старонка 8.





TUT.BY

## Эфект дэвальвацыі

Беларускі экспарт у маі абагнаў імпарт.

Дадатнае сальда замежнага гандлю за месяц склала $117 млн. Краіна аказалася ў плюсе ўпершыню за паўтара года.

Праблемы з набыццём валюты падрэзалі імпарт адміністратыўным парадкам. Адначасова спажывецкі попыт на імпартныя тавары знізіўся разам з падзеннем рэальных заробкаў і ростам цэнаў.

Эканоміка — старонка 4.

Блогеры спрабуюць ідэнтыфікаваць «героя», які пырскаў газам у журналістаў.

Пярцовым газам проста ў твар: так 3 ліпеня гіцлі ў цывільным перашкаджалі працы журналістаў. У МУС заявілі, што не маюць да гэтага ніякага дачынення.

Аднак у нядзелю фотакамеры зафіксавалі маладога чалавека, які пырскае з балончыка з-за спіны проста ў твар аператару агенцтва Reuters Уладзіміру Косціну. Потым гэты самы чалавек з балонам у руках трапіў яшчэ на некалькі кадраў. Вельмі хутка ён стаў чарговым антыгероем байнэту. Спачатку пачалі з'яўляцца фотажабы з яго выявай, а неўзабаве ў сацыяльных сетках прагучала прапанова адшукаць яговыя асабістыя дадзеныя і апублікаваць іх.

Тут варта адзначыць, што ў сацыяльных сетках гучаць заклікі да новай грамадзянскай кампаніі.



Герой пшыкае газам з-за спіны ў твар аператара агенцтва Reuters.

# Майстры баявога пшыку




Той самы пшыкун з тым самым балончыкам у руцэ.




Пратэст у Мінску быў абсалютна мірным.

Людзі абураюцца тымі суддзямі і чыноўнікамі, якія пераследуюць невінаватых людзей. У інтэрнэце пачалі з'яўляцца фотаздымкі найбольш актыўных «агентаў у цывільным» з подпісамі «Іх шукае міліцыя», «Ён выкрадае людзей». Праваабаронцы перасцерагаюць ад падобных дзеянняў. Права на збор асабістай інфармацыі маюць толькі кампетэнтныя органы. Тым не менш ахвярай віртуальнага палявання ўжо стаў выпускнік Акадэміі МУС, якога западозрылі ў выкарыстанні пярцовага газу супраць журналістаў.

Праз дзень пасля нядзельнага разгону па блогах пайшлі гуляць звесткі са старонкі «Вконтакте» аднаго з выпускнікоў Акадэміі МУС К. З ягонай асабістай інфармацыі вынікае, што ён з-пад Ваўкавыска, каталік і «ненавідзіць апазіцыю» (хоць само гэтае слова піша з памылкаю — і ўвогуле з арфаграфіяй не сябруе). І хоць малады чалавек на фотаздымках, змешчаных на той старонцы, не зусім падобны да таго пшыкуна, курсант К. імгненна стаў аб'ектам кпінаў і праклёнаў.

Пазней з «НН» звязаўся малады чалавек, які назваўся аднагрупнікам курсанта К. Ён паведаміў, што той не быў у Мінску ў нядзелю. Ён пакрытыкаваў падыход блогера. Але пры гэтым асудзіў і пшыкуноў: «Паскуды бываюць усюды».

І хоць курсант К. з Ваўкавыска сапраўды выявіўся не тым, за каго яго прынялі, «нянавісць да апазіцыі» ў чалавека, які павінен служыць закону, а не якойсьці палітычнай сіле, выклікае пытанні да адукацыйнай сістэмы МУС. І гэтыя пытанні датычаць не толькі дзеянняў міліцыянтаў 3 ліпеня. Цяжка сабе ўявіць, каб, напрыклад, у Германіі будучым паліцыянтам прышчаплялі нянавісць да апазіцыі.

**Сямён Печанко**

**Калі ў кагосьці ёсць звесткі, хто атакаваў журналістаў 3 ліпеня, паведамляйце ў СМІ.**

**Акцыі маўклівага пратэсту** адбыліся ў Мінску (некалькі тысяч удзельнікаў), Гомелі (да тысячы 22, 29 чэрвеня), Брэсце (да тысячы 22, 29 чэрвеня), Гродне (да тысячы 29 чэрвеня), Магілёве (да тысячы 3 ліпеня). Больш за 100 удзельнікаў збіралася ў Наваполацку, Баранавічах, Віцебску, Пінску, Маладзечне, Бабруйску, Лідзе. 22, 29 чэрвеня або 3 ліпеня акцыі адбыліся таксама ў Ваўкавыску, Смаргоні, Слоніме, Навагрудку, Бярозаўцы (Лідскі раён), Бярозе, Кобрыне, Белаазёрску, Пружанах, Ганцавічах, Століне, Стоўбцах, Слуцку, Салігорску, Старых Дарогах, Лагойску, Смалявічах, Жодзіне, Барысаве, Вілейцы, Глыбокім, Полацку, Паставах, Мёрах, Оршы, Чавусах, Асіповічах, Мар'інай Горцы, Быхаве, Чачэрску, Мазыры, Рэчыцы, Рагачове, Жлобіне, Светлагорску, Нясвіжы, Калінкавічах.

## Сцісла

• **Зімоўскі адкрыў блог, у якім матам лае лукашэнкаўскую сістэму.** А таксама прадказвае краіне грашовую рэформу з канфіскацыяй укладаў. Працуе ён цяпер медыякансультантам у Пецярбургу. Там ён і замуціў (гэта ягоны ўласны выраз) інтэрнэт-праект, заснаваны на выкарыстанні нецэнзурнага кантэнту. Зімоўскі задаволены сваім новым станам: «Новая справа мне да душы, таму я ўпэўнены, што рашэнне прэзідэнта аб маім пераходзе на іншую працу было правільным і своечасовым. У той жа час Зімоўскі пакрыўджаны тым, што яго адправілі ў адстаўку «вельмі ўбога, без людскасці, кажучы па-беларуску, ну дык гэта наша традыцыя». Азнаёміцца з ягонымі пісаннямі можна на сайце inosmi.by: «Кампраматам я не збіраюся апераваць. Толькі матам».

• **Дзмітрыя Уса паклалі ў турэмны шпіталь.** І не ў просты, а ў Рэспубліканскі турэмны. Першым пра гэта паведаміў у лісце сваёй жонцы палітвязень Зміцер Бандарэнка, які сам цяпер ляжыць там і пабачыў Уса. Некалькі гадоў таму Дзмітрый Ус перанёс цяжкую аперацыю, ляжаў шмат дзён у коме, пасля гэтага Усу была прызначана 2-я група інваліднасці.

• **Рыгора Барадуліна паклалі ў бальніцу.** Дактары выявілі ў 76-гадовага Народнага паэта Беларусі арытмію сэрца.

• **Пачынаючы ад пятніцы будзе сапраўднае лета.** Нарэшце хваля цыклонаў зменіцца пагодай.Ва ўсёй краіне цэлыя два тыдні будзе трымацца гарачае і пераважна без дажджоў надвор'е.

• **Беларускі віяланчэліст заняў трэцяе месца** на конкурсе імя Чайкоўскага. 18-гадовы Іван Карызна цяпер вучыцца ў Парыжскай кансерваторыі.

**СМ, ЮУ, СГ**

## Папрацуй і пагуляй у Крэве

Папрацаваць дзеля захавання велічнага замка і здабыць сабе новых сяброўак і сяброў? Табе гэта ўдасца ў Крэве (Смаргонскі раён). Там праходзіць валанцёрскі летнік «Крэўская унія-2011». Летнік арганізаваў дабрачынны фонд «Крэўскі замак». З 18 па 31 ліпеня адбудуцца археалагічныя раскопкі. 13–14 жніўня пройдзе Крэўскі кірмаш: там выступяць тэатры і гурты, будзе і ўласна кірмаш.

Жывуць валанцёры ў намётах. Летнік працягнецца да 15 жніўня.

## Самае чытанае на nn.by за 29 чэрвеня — 5 ліпеня

1 Жахлівы «Дзень Незалежнасці». Шакуючыя кадры гвалту над жыхарамі Мінска

2 Жахлівы «Дзень Незалежнасці». Анлайн-рэпартаж

3 Суб'екты ў цывільным хапаюць людзей на вуліцах Мінска — відэа

4 Фотарэпартаж з самага дзіўнага з парадаў

5 Аграсэкс на Кастрычніцкай

6 Выклік Лукашэнку перахапіў захад Беларусі: масавыя шэсці ў Гродне і Брэсце

7 «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку» да Лукашэнкі: «Акцыі будуць працягвацца»

8 Высокі чын міліцыі: «Что вы е***лом щёлкаете?!» — відэа

9 Проста аслупянець: новыя пошліны на аўто па расійскіх правілах

10 Зімоўскі адкрыў блог, у якім матам лае лукашэнкаўскую сістэму

# «Свята» з газам на вачах

Працяг. Пачатак на старонцы 1.

Апошняму 3 ліпеня і самому прыйшлося адбівацца ад сваіх: у роспале хапуна на вачах у журналістаў адзін з людзей у штацкім загроб за шкірку і яго. Іншы ж заляпіў міліцэйскаму начальніку па галаве.

Паколькі на людзей нападалі агенты без формы, хоць і з навушнікамі-перадатчыкамі ў вушах, многія мінчукі аказвалі жорсткае супраціўленне. Асабліва жанчыны: яны літаральна адбівалі затрыманых юнакоў. Драматычныя кадры з Мінска цэлыя суткі паказвалі сусветныя навінныя каналы.

Агулам у адной толькі сталіцы за 3 ліпеня праваабаронцы зафіксавалі больш за 200 затрыманняў. Некаторых выпусцілі, іншыя абмежаваліся штрафамі, дзясяткі людзей адправілі на суткі.

### Мая міліцыя мяне сцеражэ

Некалькі маладых сем'яў сабралі вакол сябе журналістаў. «Я не хачу майму сыну такой будучыні, якую прапануе ўлада», — заявіў малады мужчына з дзіцём на плячах. «Аблапалі каляску, спалохалі сына... Людзі, працнiцеся, не бойцеся!» — крычала жанчына. Людзі на прыпынку адказалі бурнымі апладысментамі. Да грамады адразу падскочыў палкоўнік Яўсееў: «Што за хлопанне такое? Рабіце дзіцяці ладушкі дома. Разыходзімся!».

Гіцлі ў цывільным шмат разоў перашкаджалі працы журналістаў. Часамі яны пырскалі ў твар рэпарцёрам пярцовым газам. Твар аднаго такога героя ўдалося зняць **(старонка 2)**.

### «Мерсэдэс» з Цоем

Зачыстка Прывакзальнай плошчы ўжо пачалася, калі каля вакзала прыпаркаваўся чорны «Мерсэдэс» прадстаўнічага класу з элітным нумарам 0002 BX-7. «Перемен требуют наши сердца! Перемен требуют наши глаза!» — загучала на ўсю магутнасць з дынамікаў машыны. Больш за дзесяць хвілін песня Віктара Цоя раўла на ўсю плошчу. Да «Мерсэдэса» на «перамовы» адправіўся супрацоўнік ДАІ, які захацеў аштрафаваць дзяўчыну-кіроўцу і яе спадарожніка за няправільную паркоўку. Тыя заблакавалі вокны і працягвалі слухаць Цоя. Падаспела падмацаванне — некалькі дзясяткаў агентаў у цывільным, але хлопец з дзяўчынай працягвалі ўсміхацца ім праз прачыненыя вокны. Урэшце міліцыянт разблакаваў дзверы. Пасажыраў выцягнулі з машыны і закінулі ў аўтазак. Супрацоўнік ДАІ сеў за стырно і з'ехаў з дзяўчынай у невядомым кірунку. Лёс затрыманага хлопца на момант падпісання «НН» у друк заставаўся невядомым.

**Віталь Несцераў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Завадатары маўклівых пратэстаў — Лукашэнку: «Акцыі будуць працягвацца»

«Вы не маеце сумлення, але хоць пабойцеся Бога!» — дзёрзка пішуць яны.

Прайшоў ужо месяц, як пачаліся штотыднёвыя Вечары Апладысментаў. На першы ніхто нават не звярнуў увагі. Ну, прыйшлі маладзёны на Плошчу. Пад гітарку песенькі паслухалі, марожанага паелі. Здавалася, што тут страшнага?

Але пасля пратэсты пачалі нарастаць. Плошчу абнеслі турнікетамі, пасылалі на яе БРСМаўцаў маршыраваць і танцаваць.

Былі шматлікія затрыманні і арышты. 15, 22, 29 чэрвеня і 3 ліпеня ў 15 гарадах краіны агулам затрымалі каля 1250 чалавек! Гэта пры тым, што афіцыйныя СМІ гавораць пра «купку пратэстуючых». Як і пасля выбараў, спрацавала беларуская салідарнасць: для аштрафаваных праз інтэрнэт людзі сабралі дзясяткі мільёнаў рублёў.

Разам з тым, казаць, што мінскія акцыі былі надзвычай шматлікімі, не выпадае. Відаць, на пікавую акцыю 22 чэрвеня выйшла не болей за 5 тысяч чалавек.

Але галоўная нечаканасць — абуджэнне рэгіёнаў. Ну скажыце, калі апошні раз на вулічныя пратэсты ў абласных гарадах выходзіла па тысячы чалавек? Прычым ініцыятыву перахоплівалі па чарзе. 22 чэрвеня найбольш людзей сабралася ў Гомелі. 29 чэрвеня магутныя, радасныя шэсці адбыліся ў Брэсце (75 затрыманых) і Гродне (без затрыманняў). 3 ліпеня ў лідарах быў ужо Магілёў — радзіма Лукашэнкі. У Гродне 3 ліпеня ў аўтазакі трапіла аж 120 чалавек! Рэгіянальны рэкорд свабоды сходу.

Пасля доўгіх гадоў жыхары гэтых гарадоў перасталі баяцца выказваць свой пратэст. Гэта можна аднесці да пераломных момантаў гэтага лета.

Ажылі і меншыя гарады. Такія як Маладзечна, Наваполацк, Баранавічы, Мазыр, Бабруйск, Кобрын. Тут збіралася да сотні чалавек і болей. Для некаторых мясцінаў, як Мёры, Быхаў, Чэрыкаў, Бярозаўка (Лідскі раён), Чачэрск гэта былі першыя акцыі пратэсту за часамі Лукашэнкі. Тым не менш, 3 ліпеня стала відавочна, што інтарэс да акцый пачаў меншаць. У нейкай ступені гэта адказ на дзеянні арганізатараў, якія не змаглі падагрэць цікавасць новымі формамі пратэсту, а таксама страх перад рэпрэсіямі. Які наступны этап дзеяння? — цікавіліся ўдзельнікі.

Гэта прымусіла арганізатараў задаца пытаннем, ці варта працягваць акцыі. У апытанцы на іхнай старонцы «Вконтакте» абсалютная большасць адказала, што так. Для рэгіёнаў фармат не змяніўся. Там па-ранейшаму заклікаюць прыходзіць а 19.00 у серады на цэнтральныя плошчы, а вось з Мінскам вырашылі мяняць.

На сваіх старонках яны заклікаюць збірацца каля сваіх ЖЭСаў, а пасля ісці на «цэнтральны пункт раёна» – да палацаў спорту і лядовых палацаў, гіпермаркетаў і гандлёвых цэнтраў. Адпаведныя спісы месцаў падаюцца.

Арганізатары заклікаюць проста разам хадзіць. Хлопаць пачынаць толькі ў тым выпадку, калі няма небяспекі затрымання.

«Добра, што яны шукаюць новыя формы, — кажа прадпрымальнік і блогер Ян Марозаў. — Фантазія працуе, крэатыўнаму падыходу і пошуку новых фарматаў рэспект. Але ёсць пэўны песімізм праз тое, што ўлады, хоць і не адразу, але знойдуць спосабы супрацьстаяння грамадзянскаму супраціву і ў такім фармаце».

Тым часам малавядомыя завадатары суполкі «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку» змясцілі на сваёй старонцы адкрыты зварот да Аляксандра Лукашэнкі.

«Калі вы думаеце, што збіцём, штрафамі, арыштамі вы зможаце запалохаць увесь народ, то вы памыляецеся. Бандытаў не баяцца. Бандыты баяцца — баяцца адказнасці, баяцца будучыні непазбежнага суда, — дзёрзка пішуць ініцыятары. — У вас няма сумлення, але хоць пабойцеся Бога! Не аддавайце злачынных загадаў! Гэта не спыніць мірных акцый пратэсту. Мы змагаемся не за кавалак каўбасы і дадатак у 20 даляраў, а за свабоду. Мы не будзем спыняцца, акцыі будуць праводзіцца пры любых умовах. Вы спрабуеце рэпрэсаваць аднаго — на яго месца прыходзяць трое», — напісана ў звароце.

У іншай суполцы ў Фэйсбуку з'явілася прапанова байкоту. Людзей заклікаюць байкатаваць дзяржаўныя банкі, радыё, газеты, латарэйны бізнэс і кампанію «Трайпл».

Людзям прапануюць пераадрасаваць падпіску на дзяржаўныя выданні на адрас саміх рэдакцый, не купляць латарэйныя білеты і прадукцыю «Трайпл».

«Тактыка байкоту ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы прывяла да таго, што пратэстоўцы дасягнулі сваіх мэтаў, а прыўлады бізнэс панёс велізарныя страты», — пішуць юнакі.

Улады па-ранейшаму працягваюць называць зборы людзей на Плошчах незаконнымі і заклікаюць грамадзян устрымлівацца ад удзелу ў іх. Афіцыйныя СМІ вядуць зладжаную кампанію крытыкі на адрас пратэстоўцаў.

Беларуская Канстытуцыя гарантуе свабоду сходу і слова. На практыцы яе часта немагчыма зрэалізаваць.

**Зміцер Панкавец**

# Няхітры рэцэпт для «беларускага цуду»

Расія націскае, патрабуе ад Лукашэнкі прыватызацыі.

Ліпень ужо пачынае асацыявацца з інфармацыйнымі атакамі расійскіх тэлеканалаў на беларускае кіраўніцтва. Год таму быў нашумелы «Хросны бацька». Цяпер айцы-стваральнікі таго блакбастара пусцілі на экраны НТВ «Беларускі цуд».

Паўгадзінная перадача расказвае пра «сакрэты» «беларускага эканамічнага цуду» і пра тое, чаму краіна апынулася ў настолькі складанай сітуацыі.

Фільм пачынаецца перадвыбарчымі кадрамі, калі Лукашэнка з сынам Колем і старшынёй Нацбанка Пятром Пракаповічам сядзелі на залатых злітках. Першым героем фільма становіцца былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. «Узровень жыцця ў нас быў вышэйшы, чым мы зараблялі», — кажа ён.

Увогуле тэлевізійнікі ўзялі інтэрв'ю шмат у каго з беларусаў. Палітыкаў сярод іх практычна не было. Праслізнуў толькі эканамічны каментар Яраслава Раманчука, а таксама леташні запіс інтэрв'ю Міколы Статкевіча.

Дэманструюцца кадры прадпрымальніцы Таццяны, якая мусіць купіць расійскія рублі, каб набыць тавар у суседняй дзяржаве. «Сітуацыя прыніжальная, але што зробіш», — кажа яна. «Бізнэс спыніўся, бізнэсу няма. Ёсць толькі думкі, ідэі, каб хоць штo-небудзь прадаць», — гаворыць прадпрымальнік Алесь Таўстыка.

«Беларускія ўлады часта любілі гаварыць пра асаблівы шлях эканамічнага развіцця. З'явіўся нават тэрмін «беларускі цуд». Астравок сацыялістычнай эканомікі ў акіяне капіталізму», — кажуць аўтары фільма.

Станіслаў Шушкевіч мяркуе, што палепшыць сітуацыю можна шляхам продажу буйных прадпрыемстваў. «Галоўнае — не паўтарыць досведу расійскіх «ліхіх 90-х», — кажа першы кіраўнік Беларусі.

Напрыканцы НТВшнікі даюць беларусам няхітры рэцэпт, як выйсці з сённяшняй сітуацыі. «Цяпер шанец для Лукашэнкі заключаецца ў тым, каб сысці пад крыло да Расіі. У тым ліку рэалізаваць сваё абяцанні аб тым, што Беларусь гатовая ўвайсці ў рублёвую зону. У гэтым выпадку беларуская эканоміка адразу была б застабілізаваная і многія з сённяшніх праблем сышлі б у адзін момант», — кажа палітолаг Вячаслаў Ніканӑў.

Такім чынам, Расія націскае, патрабуе ад Лукашэнкі прыватызацыі.

**ЗП**

# Апазіцыя патрабуе свабодных выбараў

29 чэрвеня прадстаўнікі АГП, БНФ, «Справядлівага свету», Руху «За Свабоду», БХД і «Гавары праўду» падпісалі пагадненне, дзе патрабуюць вызвалення палітвязняў, а таксама правядзення свабодных выбараў. Аляксандр Мілінкевіч адзначыў, што калі ўлада не пойдзе на вызваленне палітвязняў і правядзенне свабодных выбараў, то ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах не варта. Пра ўзаемадачыненне з «Рэвалюцыяй праз сацыяльную сетку» Сяргей Калякін сказаў: «Мы з імі ў кантакце».

**ЗП**

# Беларускія Білы Гейтсы

**Гісторыя поспеху кампаніі EPAM Systems, якая каштуе больш за $100 мільёнаў.**

EPAM Systems — далёка не самае вядомае сярод беларусаў прадпрыемства. «Аўтсортынгавая кампанія» — гэта не МАЗ і не «Белшына». Выраз гучыць незразумела для большасці насельніцтва.

Калі тлумачыць папросту, гэта распрацоўка камп'ютарных праграм. Менавіта EPAM Systems, лідар беларускага Парка высокіх тэхналогій, у сваёй галіне стала адной з найбуйнейшых кампаній Еўропы.

Інжынерам Аркадзю Добкіну і Леаніду Лознеру ўдалося рэалізаваць сваю «амерыканскую мару» ў Беларусі. Яны даўно ўжо даляравыя мільянеры, але не стаяць на месцы і развіваюць свой бізнэс далей. Цяпер у EPAM Systems працуе каля 7 тысяч чалавек, прычым амаль палова з іх з'яўляюцца супрацоўнікамі офіса ў Мінску.

### Беларускія мільянеры

У чарговы раз пра кампанію загаварылі ў пачатку чэрвеня, калі яна падала заяўку ў камісію па каштоўных паперах ЗША з планам размяшчэння акцый на суму каля $100 мільёнаў — поспех, да якога большасці беларускіх арганізацый далёка як да неба. Прычым ён дасягнуты без найпрасцейшай падтрымкі з боку дзяржавы. Дзіўнымі поспехам Юрыя Чыжа ці Уладзіміра Пефціева можна колькі заўгодна, але ў іх багацці велізарную, калі не вырашальную ролю адыгрывае блізкасць да кіраўніка дзяржавы.

Ёсць і іншая акалічнасць — аднакласнікі Аркадзь Добкін і Леанід Лознер дасягнулі свайго поспеху інтэлектуальнай працай. Дарэчы, электронная газета «Ежедневник» называе Добкіна пятым па ўплывовасці бізнэсоўцам краіны.

Лічбы кажуць самі за сябе. Паводле дадзеных фінансавай справаздачнасці, у 2010 годзе чысты прыбытак кампаніі (пасля падаткаабкладання) склаў $33,2 мільёна. За першы квартал 2011 года EPAM Systems зарабіла яшчэ $10 мільёнаў.

### Амерыканскія навыкі

Яшчэ за савецкім часам Аркадзь Добкін заснаваў кааператыў па стварэнні праграмнага забеспячэння, а вось Леанід Лознер займаўся распрацоўкай праграм і эксперыментальных сродкаў у галіне ядзернай фізікі. Калі ў выніку заняпаду СССР краіна трапіла ў галечу, яны, як і шмат хто з беларускіх інжынераў і навукоўцаў, з'ехалі ў ЗША. «Я здолеў знайсці працу ў ЗША праз чатыры месяцы пошукаў, што ў той час было ніядрэнна, — згадваў Добкін. — Да гэтага я месяцы тры сапраўды мыў посуд, ад чаго на наступныя пару гадоў спалохаўся вельмі моцна. Менавіта гэта дапамагло мне дамагчыся ўсяго».

Літаральна праз пару гадоў, у 1993-м, у Нью-Джэрсі была заснаваная EPAM Systems. Цяпер геаграфія кампаніі складаецца з дзясятка еўрапейскіх краінаў, такіх як Брытанія, Германія, Швецыя, але найбольшая колькасць праграмістаў працуе менавіта ў Мінску.



### Сузаснавальнік сіліконавай даліны

На радзіме Аркадзь Добкін стаў адным з ініцыятараў стварэння Парка высокіх тэхналогій. Цалкам лагічна, што менавіта яго кампанія пераехала ў будынак на вуліцы Купрэвіча, першы з усяго комплексу Парка. Прызнанне на дзяржаўным узроўні прыйшло да бізнэсоўцаў у 2010 годзе, калі кампанія стала найлепшым экспарцёрам у сферы інфармацыйных тэхналогій.

Вялікія фінансавыя магчымасці дазваляюць EPAM Systems фактычна трымаць беларускі рынак пад кантролем. У кампаніі хапае грошай, каб прывабліваць найлепшых айчынных праграмістаў. Не дзіва — заробкі ў кампаніі вышэйшыя, чым у канкурэнтаў і ўдвая-ўтрая большыя, чым у цэлым па краіне. Прычым у апошні час EPAM Systems наладзіла шчыльнае супрацоўніцтва з універсітэтамі, рыхтуючы сабе супрацоўнікаў яшчэ з часу іх навучання.

**Яўген Васількоў**

**Аркадзь Добкін**

нарадзіўся ў Мінску ў 1960. Скончыў БНТУ па спецыяльнасці «інжынер электратэхнік», у 1987 заснаваў кааператыў, а ў 1991 з'ехаў у ЗША. З 1993 — старшыня рады дырэктараў EPAM Systems.

# Чорны рынак знайшоў «адзіны і раўнаважкі» курс

**Даляр каштуе каля 6200 рублёў, а еўра — 9000 рублёў.**

Чорны рынак валюты падабраўся да раўнавагі. На працягу апошніх тыдняў і валютчыкі, і інтэрнэт-крамы, і карыстальнікі сайта prokopovi.ch сышліся ў аб'ектыўнай ацэнцы даляра, каля 6200 рублёў. Такі курс трымаецца і ў абменніках у Вільні.

Курс куплі складае 6100-6200 рублёў, а курс продажу — 6200-6350 рублёў.

Нагадаем, што Нацбанк у сваю чаргу яшчэ 15 чэрвеня абвясціў курс 5000 рублёў за адзін даляр «адзіным раўнаважкім на ўсіх сегментах унутранага валютнага рынку». Сапраўды, афіцыйны курс даляра ні разу не перайшоў за гэту псіхалагічную адзнаку. Максімальны курс складаў 4998 рублёў. Адпаведна, курс даляра ў абменніках выстаўляецца на ўзроўні 5050-5100 рублёў, але свабодна купіць валюту папярэдняму немагчыма. Каля банкаў дзяжураць чэргі са спісамі ахвотных атрымаць хоць якія замежныя грошы.

Ацаніць безнаяўны курс даляра не ўяўляецца магчымым праз забарону правядзення аперацый па курсе, які адрозніваецца ад афіцыйнага больш, чым на 2%. Усе аперацыі з адхіленнем ад гэтага курса сышлі ў глыбокі цень.

Разрыў паміж афіцыйным і чорным курсам даляра складае 25%, але беларускія ўлады не настроены змагацца з гэтым дыспарытэтам. Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка не раз заяўляў «што пакуль не бачыць падстаў, каб курс вырас вышэй за 5000 рублёў за $1. З ім згодны прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, які ўвогуле лічыць, што валютны рынак цалкам запрацаваў.

А вось міністр фінансаў Андрэй Харкавец асцярожна намякае, што курс павінен абапірацца на рынкавыя правілы. Ён прызнаў, што цяперашні курс вымагае дадатковых стратаў на яго падтрыманне: «Можа спатрэбіцца больш інтэрвенцый».

**ЯВ**

# Паехалі па расійскіх правілах

**Уступілі ў сілу новыя мыты на аўто.**

З 1 ліпеня 2011 года мыты за ўвезеныя з-за мяжы аўтамабілі пачалі вылічацца па новых, вышэйшых стаўках. Такі «падарунак» беларусы атрымалі праз уступленне краіны ў Мытны саюз з Расіяй і Казахстанам.

Прывядзем просты прыклад. Папулярны дзесяцігадовы «саляразавоз» Фальксваген Пасат Б5 можна было размытніць за 760 еўра, а цяпер давядзецца заплаціць 9120 еўра. У 12 разоў больш! Розніца складае 8360 еўра.

За апошні месяц гэта другі істотны ўдар па прымежных «чаўнаках». Спачатку дзяржава фактычна забараніла вываз паліва ў суседнія краіны Еўрасаюза, а цяпер зрабіла перагон з Захаду патрыманых машын канчаткова нявыгадным.

**ЯВ**

| Узрост аўто | Аб'ём рухавіка, куб. см | Мыта за 1 см3 (у еўра) |
|---|---|---|
| Больш за 5 гадоў | Ад 1000 | 3 |
| | Ад 1000 да 1500 | 3,2 |
| | Ад 1500 да 1800 | 3,5 |
| | Ад 1800 да 2300 | 4,8 |
| | Ад 2300 да 3000 | 5 |
| | Больш за 3000 | 5,7 |
| Ад 3 да 5 гадоў | Ад 1000 | 1,5 |
| | Ад 1000 да 1500 | 1,7 |
| | Ад 1500 да 1800 | 2,5 |
| | Ад 1800 да 2300 | 2,7 |
| | Ад 2300 да 3000 | 3 |
| | Больш за 3000 | 3,6 |

# Мінск рыхтуе IPO «Беларуськалія»

**Гэта лагічны рынкавы крок.**

Беларусь рыхтуе IPO «Беларуськалія» — аднаго з найбуйнейшых у свеце вытворцаў калійных мінеральных угнаенняў. Пра гэта заявіў першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка. «Тры тыдні таму я даў даручэнне «Белнафтахіму» і «Беларуськалію» (які падпарадкоўваецца «Белнафтахіму») рыхтаваць пэўны пакет акцый «Беларуськалія» для IPO на адной з біржаў», — цытуе Сямашку РІА «Навіны».

Гэта лагічнае рашэнне ў рынкавым духу. Перш чым прадаваць вялікую долю акцый пакетам, варта было б прыцаніцца да попыту на біржы.

Але гэтае рашэнне ўрада сведчыць таксама, што яму не ўдаецца прадаць долю ў «Беларуськаліі» «Уралкалію» па цане, якую яны першапачаткова выставілі.

IPO «Беларуськалія» можа стаць самай значнай прыватызацыйнай аперацыяй за апошнія гады.

**Сяргей Гезгала**

**Што такое IPO?**

Гэта першапачатковая публічная прапанова акцый кампаніі на продаж. Пры гэтым маецца на ўвазе, што кампанія ўпершыню выводзіць свае акцыі на біржу, прапануючы іх неабмежаванай колькасці асобаў. Паўдзельнічаць у прыватызацыі можа і насельніцтва.

# Беларусь хоча збіраць расійскія «Ё-мабілі»

**Гэта аўтамабіль-гібрыд.**

У Беларусі можа пачацца выпуск першага расійскага гібрыда — ё-мабіля. Пра гэта заявіў старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Ігар Вайтоў. «Мы накіравалі ў Расію прапанову аб разглядзе магчымасці стварэння беларускага аддзялення па выпуску расійскіх ё-мабіляў», — расказаў ён.

Ігар Вайтоў таксама адзначыў, што перамовы пра магчымасць узаемадзеяння ў галіне вытворчасці легкавых аўтамабіляў вядуцца і з іншымі краінамі: «У якасці патэнцыйнага партнёра мы разглядаем Кітай, будзем прапанаваць праект па стварэнні СП па выпуску аўтамабіляў у Карэі».

«Ё-мабіль» — праект расійскага гібрыднага аўтамабіля з электрычным прывадам і энергетычнай устаноўкай. Яго вытворчасць спансуе алігарх Міхаіл Прохараў. Мінімальная цана можа скласці $12 тысяч. На сайце кампаніі ўжо зроблена 135 тысяч перадзамоў. Першыя машыны маюць выпусціць у верасні 2011 года. Цікава, што назву для расійскага гібрыднага аўто прыдумаў славуты беларускі дызайнер Уладзімір Цэслер.

**ЯВ**

## Сціслa

- **Беларусь хоча збудаваць вытворчасць LCD-панэляў.** Па словах першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі, урад шукае інвестара для стварэння высокатэхналагічнай вытворчасці.
- **МТС падымае цэны на 10%.** Новыя цэны будуць дзейнічаць з 11 ліпеня 2011 года. Узрастуць тарыфы на ўнутрысеткавыя званкі, званкі ў іншыя сеткі, SMS-паведамленні, а таксама памер абаненцкай платы на некаторых тарыфных планах.



# Іх стала 64

Абвінавачанне ва ўдзеле ў масавых беспарадках выстаўлена Святаславу Барановічу. Яго затрымалі 15 чэрвеня.

У праваабарончым цэнтры «Вясна» паведамілі, што да канца следства малады чалавек будзе ўтрымлівацца ў ізалятары на вул. Валадарскага. Тэрмін следства працягнуты да верасня.

Барановічу выстаўлена абвінавачанне па частцы 2 артыкула 293 КК «удзел у масавых беспарадках» 19 снежня. Як адзначылі праваабаронцы, паводле версіі следства Святаслаў ададбраў у супрацоўнікаў міліцыі дубінку і нанёс ёй удары па шчытах. Абвінавачаны прызнае, што ўдарыў дубінкай па шчытах, але адмаўляе, што імкнуўся кагосьці біць, як і сам факт масавых беспарадкаў. Малады чалавек з'явіўся ў міліцыю пасля выкліку па тэлефоне. І яго адразу ўзялі пад варту.

Пра Барановіча вядома мала. Яго родныя баяцца ісці на кантакт з журналістамі. Ён нарадзіўся 16 красавіка 1986 года ў в. Кавалі Вілейскага раёна. Шостае дзіця ў сям'і. Скончыў Праўдзінскі дзяржаўны будаўнічы прафесійны ліцэй у Пухавіцкім раёне, дзе атрымаў спецыяльнасць сантэхніка. Апошнім часам пражываў у Мінску. Пасля падзей на Плошчы Святаслаў адбыў дзесяцідзённы адміністрацыйны арышт. Вядома, што ён прафесійна займаўся боксам. Паводле статыстыкі Беларускага грамадскага аб'яднання прафесійнага бокса Барановіч дэбютаваў летась (у паўцяжкой вагавай катэгорыі). Трэніраваўся пачаў малады чалавек у адным спартовым клубе з Мікітам Ліхавідам, раней асуджаным па справе аб так званых масавых беспарадках.

У канцы сакавіка ў КДБ паведамілі, што затрыманыя ўсе, хто меў дачыненне да арганізацыі і ўдзелу ў акцыі пратэсту ў Мінску 19 снежня. Па гэтай справе ўжо асудзілі 44 чалавекі (па розных артыкулах), яшчэ сямёра абвінавачаныя, але не асуджаныя, і дванаццаць чалавек знаходзяцца ў статусе падазраваных.

**Кастусь Матушыч**

## Зміцер Дашкевіч паскардзіўся ў Генпракуратуру

Палітвязень просіць «правесці праверку ў следчым ізалятары №8 па фактах некарэктнага і абразлівага стаўлення з боку адміністрацыі» Жодзінскага СІЗА.

Зміцер адзначае, што па прыездзе ў турму «маёр патрабаваў ад мяне стаяць перад ім, не проста склаўшы рукі за спінаю, але склаўшы іх за спінаю і трымаючы ў іх торбы, з якімі я прыехаў». У яго былі дзве торбы па 20 кг кожная. За адмову яму прыгразілі фізічнай расправай.

Дашкевіч просіць правесці праверку і наконт таго, ці пераследуюць вязні па нацыянальнай прыкмеце. Паводле словаў Дашкевіча, яго паабяцалі пасадзіць у карцар, калі ён будзе і далей адказваць па-беларуску, у той час як астатнія вязні хорам адказваюць па-расійску.

Падчасператрусу ў Змітра забралі кнігі. Вязень спасылаўся на «Правілы ўтрымання асобаў пад вартаю». Але пачуў, што «ёсць пастанова кіраўніцтва рэжымнага аддзела аб тым, што кнігі мець у камеры забаронена». У выніку толькі Біблію дазволілі.

**КМ**

* * *

Лідар «Маладога фронта» Зміцер Дашкевіч прыбыў адбываць пакаранне ў калонію ў горадзе Горкі (Магілёўская вобласць). Як стала вядома сустаршыні БХД Паўлу Севярынцу, амаль адразу пасля этапу Дашкевіч апынуўся ў штрафным ізалятары — адмовіўся па загадзе мыць турэмную прыбіральню.

Дашкевіч асуджаны на два гады калоніі за злоснае хуліганства. Нібыта ён разам з Эдуардам Лобавым за дзень да выбараў збіў двух мінакоў. На судзе «пацярпелыя» не паказаліся, гучалі толькі іхныя галасы.

**ЗП**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

* * *

Бацька палітвязня Вячаслаў Дашкевіч звярнуўся ў Дэпартамент выканання пакаранняў з просьбай аб пераводзе сына ў іншую калонію, бліжэйшую да яго. Вячаслаў жыве ў Старых Дарогах, ён — інвалід і ездзіць так далёка на спатканне да Змітра яму цяжка.

**КМ**

Напісаць Змітру Дашкевічу можна па адрасе: 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Дабралюбава, 16. Папраўчая калонія №9.

## БАЖ звярнуўся да Лукашэнкі

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) адрэагавала на заяву Аляксандра Лукашэнкі падчас прэс-канферэнцыі 17 чэрвеня. Кіраўнік дзяржавы сказаў, што палітвязні могуць быць выпушчаныя пасля адпаведнага звароту да яго журналісцкай арганізацыі. Праўленне ГА «БАЖ» накіравала такі зварот у Адміністрацыю прэзідэнта.

«Заклікаем Вас вызваліць журналістаў, роўна як і ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь, прыцягнутых да крымінальнай адказнасці ў сувязі з падзеямі 19 снежня 2010 г.; спыніць пераслед Андрэя Пачобута; даручыць Міністэрству інфармацыі адклікаць пазовы аб закрыцці газет «Народная Воля» і «Наша Ніва»; абавязаць Мінінфа адмяніць рашэнне аб спыненні вяшчання «Аўтарадыё», — гаворыцца ў звароце.

**КМ**

### Мірзаянава адправілі ў «Воўчыя норы»

Вязня этапавалі ў калонію ў Івацэвічы. Там ужо знаходзяцца палітвязні Павел Вінаградаў і Эдуард Лобаў. Фёдара Мірзаянава асудзілі на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Напісаць яму можна па адрасе: 225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія № 22.

**КМ**

## Ліхавід: «Гандзі таксама не разумелі, але ён змяніў свет»

Палітвязень даслаў ліст з калоніі, але так і не ясна, ці выйшаў ён з карцара.

Маці Мікіты Алена спасылаецца на неправераную інфармацыю, што сын усё яшчэ знаходзіцца ў карцары. Адміністрацыя ж калоніі нічога не паведамляе: настойвае, каб жанчына звярталася да іх пісьмова.

22 чэрвеня Алена Ліхавід атрымала ліст ад сына. «Сёння роўна шэсць месяцаў, як я выйшаў на дзве гадзіны і затрымаўся».

Мікіта некалькі разоў засяроджвае ўвагу, што ў яго ўсё добра, не хварэе. І адзначае, што ў штрафным ізалятары «няма нічога страшнага». «Я табе скажу па сакрэце, што там даюць у 2—3 разы ежы больш, чым у атрадзе». Алену такі тон ліста насцярожвае. Маўляў, пісаў ён для цэнзуры хутчэй. Пасля гэтага допісу жанчына яшчэ больш засумнявалася, што сына выпусцілі з карцара. «Тое, што схуднеў — справа нажыўная, папраўлюся», — напісаў Ліхавід. І дадаў, што «душа і памяць вечныя».

З допісу стала вядома, што вязень чытаў у газеце артыкул пра Фёдара Мірзаянава. Але напісаць ліст яму не можа — перапіска паміж зняволенымі забаронена. Так, Мікіту не аддалі лісты ад Аляксандра Атрошчанкава і Змітра Дашкевіча. Затое Ліхавід атрымлівае шмат лістоў са словамі падтрымкі ад іншых людзей.

«Гандзі таксама адразу не маглі зразумець, але ён змяніў свет», — заканчвае ён ліст.

Мікіта Ліхавід асуджаны на 3,5 гады калоніі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010. Раней ён ужо правёў 10, 15 і 5 дзён у карцары. Апошні раз у штрафны ізалятар яго павінны былі змясціць на пяць дзён.

**Сяргей Макарэвіч**

Напісаць палітвязню можна на адрас: 211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10.

# Пачобут на волі

Справа аб «паклёпе» і «абразе» Лукашэнкі скончылася мяккім прысудам.

Крымінальная справа ў дачыненні да гродзенскага журналіста і актывіста незалежнага Саюза палякаў Андрэя Пачобута была распачатая 18 сакавіка. Нагодай былі яго хлёсткія артыкулы ў польскім выданні Gazeta Wyborcza, на сайце «Беларускі партызан», а таксама допісы ў асабістым блогу.

Многія разглядалі крымінальны пераслед як помсту спецслужбаў, якім Пачобут прынцыпова кінуў выклік. Ён падрабязна апісаў, як 8 студзеня яго завезлі ва Упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці, дзе выпісалі афіцыйнае папярэджанне пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў (удзел у несанкцыянаванай акцыі 19 снежня) за подпісам начальніка Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці Івана Каржа. Пачобут сцвярджае, што пры гэтым супрацоўнікі гродзенскага КДБ пагражалі яму і некалькі разоў ударылі яго па галаве. Ён падаў скаргу на дзеянні кадэбістаў у вайсковую пракуратуру. Вынікам настойлівасці журналіста стала серыя праверак і медычных экспертыз.

6 красавіка Андрэй быў арыштаваны па абвінавачванні ў парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэкса — 368 (частка І) — «абраза» і 367 (частка І) — «паклёп» у дачыненні да Лукашэнкі. За такія правіны пракурор патрабаваў даць журналісту тры гады турмы.

Судовы працэс пачаўся 14 чэрвеня і праходзіў з ненатуральна доўгімі перапынкамі. Суд ішоў у закрытым рэжыме, у залу суда не пускалі нават жонку і бацькоў Андрэя.

І шторазу дзясяткі людзей збіраліся ля будынка суда — сябры Пачобута. Пастаянная была і прысутнасць асобаў у цывільным. Апалея іх дзейнасць дасягнула ў дзень вынясення прысуду. Яны выкручвалі рукі фатографам, перашкаджалі здымаць, штурхалі.

Прысуд быў абвешчаны 5 ліпеня. У гэты дзень прагучала і апошняе слова Пачобута. Пачобут не прызнаў ні сваёй віны, ні суд, які яго судзіць.

На вынясенне прысуду з вуліцы пусцілі толькі сем асобаў. У зале суда прысутнічала 15 спецназаўцаў. Суддзя Ленінскага суда Гродна Віталь Лецка вынес рашэнне па справе Пачобута: тры гады з адтэрміноўкай на два гады паводле артыкула «паклёп на прэзідэнта». Паводле артыкула «абраза» ён апраўданы. Журналіста вызвалілі ў зале суда.



Пачобут выйшаў на ганак і найперш падхапіў на рукі сына Яраслава, якога не бачыў ад красавіка. Жонка плакала ад шчасця. Людзі скандавалі «Свабоду!» і спявалі «Сто лят».

Каментуючы прысуд, Пачобут зазначыў, што рыхтаваўся да турэмнага тэрміну. «Лічу, што вынесены прысуд — гэта вынік ціску на рэжым Лукашэнкі. Я заўсёды быў прыхільнікам таго, каб у дачыненні да дыктарскіх рэжымаў праводзіць цвёрдую палітыку, бо толькі цвёрдая пазіцыя дае вынік», — адзначыў ён.

**Наста Шамрэй, Таццяна Гаўрыльчык**

# Лётай, як матылёк, джаль, як пчала

Украінец Уладзімір Клічко суботнім вечарам у нямецкім Гамбургу заваяваў яшчэ адзін тытул чэмпіёна свету па боксе ў цяжкой вазе. Цяпер паясамі ўсіх баксёрскіх асацыяцый і федэрацый валодаюць украінскія браты Клічко. Піша **Зміцер Панкавец**



**Для братоў Клічко больш не засталося супернікаў.**

## Спорт, якому сем тысяч гадоў

Бокс — гэта той від спорту праз які даводзіцца прайсці амаль кожнаму хлапчуку. Хай нават без трэнера і рынга, але ёсць кулакі і не трэба ніякіх асаблівых умоваў. Ну хто такім чынам не вызначаў мацнейшага?

Бокс ідзе з чалавецтвам ці не праз увесь час яго існавання. Выявы баксёраў малявалі ў шумерскіх пячорах яшчэ 7000 гадоў таму. У Егіпце побач з баксёрамі былі выяўленыя і гледачы. Раскопкі на Крыце сведчаць, што байцы баксіравалі ў пальчатках яшчэ ў 1500 годзе да нашай эры.

Гамер апісваў бокс у «Іліядзе». Тады гэтыя спаборніцтвы праходзілі ў гонар памерлых. Легенды кажуць, што правілы для боксу на Алімпійскіх гульнях распрацаваў сам Геракл.

Нікуды не знік гэты спорт і ў часы Сярэднявечча, ён быў афіцыйна дазволены ў італьянскіх гарадах. Сам тэрмін «бокс» (ад англійскага box — скрыня) узнік у Англіі ў XVII ст. Выданне Protestant Mercury за студзень 1681 года апублікавала справаздачу пра баксёрскі паядынак паміж мясніком і лёкаем герцага Альбемарльскага.

## Ад Голдберга да Нарудзінава

Бокс як спорт прыйшоў у Беларусь роўна сто гадоў таму. У 1911 годзе ў Гродне прайшлі спаборніцтвы па барацьбе, падыманні цяжару і боксе. Тым не менш, за царскай Расіяй бокс не паспеў атрымаць вялікую папулярнасць.

Першая баксёрская секцыя ўзнікла ў Беларусі ў 1928 годзе. Яе ў Барысаве заснаваў мясцовы энтузіяст Голдберг. Цікава, што гэта адбывалася ў тыя гады, калі бокс у СССР быў у паўлегальным стане. Некаторыя функцыянеры лічылі, што «гэты від спорту з'яўляецца буржуазным, які садзейнічае фарміраванню індывідуалізму, эгаізму». На сем гадоў бокс быў цалкам забаронены ва Украіне.

Вялікі ўклад у развіццё беларускага боксу яшчэ ў 1930-я рабілі замежныя спецыялісты — аргенцінец Паліт, немец Штайн. Беларускія трэнеры ў секцыях давалі сваім вучням чытаць кнігі Джэка Лондана, таксама ў мінулым баксёра, каб выпрацаваць у малых дух пераможцаў.

Відаць, найбольшую славу беларускаму боксу прынёс Вячаслаў Яноўскі. Гэты ўраджэнец Віцебска выйграў сеульскую Алімпіяду-1988. Потым перайшоў у прафесіяналы, дзе выйграваў першынствы Японіі і Германіі. Яноўскі вылучаўся нават сваім каларытным выглядам — рана палысеў, затое меў густыя вусы.

У 1998 яму прапанавалі ўзначаліць беларускую федэрацыю боксу. Але праз два гады ён быў вымушаны апусціць рукі, чаго амаль ніколі не рабіў на рынгу: «Цяпер якая мода? Прыцягваць у зборную расійскіх спартсменаў. Я заўсёды быў супраць гэтага».

За сваю кар'еру Яноўскі атрымаў 30 перамог пры адным пройгрышы.

Дарэчы, на сёлетнім чэмпіянаце Еўропы ў Турцыі Беларусь заваявала адзіны срэбны медаль намаганнямі Магамеда Нурудзінава.

## Розніца паміж прафесійным і аматарскім

Сённяшні бокс падзяляецца на прафесійны і аматарскі. Прычым аматарскі называецца так чыста ўмоўна. У аматарскім боксе спартсмены выступаюць у майках і шлемах, у прафесійным — без іх.

Пальчаткі ў аматарскім боксе зроблены так, што далонь там не можа цалкам сціснуцца ў кулак, каб нанесці моцныя ўдары. Цягам аднаго турніра спартсмен-«аматар» можа правесці некалькі паядынкаў. Алімпійскія ўзнагароды разыгрываюцца якраз паміж «аматарамі».

Тым не менш, прафесійны бокс — гэта як найвышэйшая ліга. Баі баксёраў тут даражэй аплачваюцца і ўвага да іх непараўнальна б. Баксёрскі паядынак прафесіяналаў — гэта ў першую чаргу шоу. Робіцца ўсё, каб прыцягнуць да праглядаў большую колькасць чалавек і зарабіць больш грошай. Бой доўжыцца дванаццаць раундаў, каб гледачы змаглі ацаніць валявыя якасці спартсменаў.

Найбольш рэйтынгавымі з'яўляюцца баі ў цяжкай вагавай катэгорыі. «Мухачы» (лёгкія спартсмены) прыцягваюць меншую цікавасць.


**Бокс вядомы ад старажытных часоў. Гэтай фрэсцы, знойдзенай на Крыце, больш за тры тысячы гадоў.**


**Вячаслаў Яноўскі цяпер вымушаны працаваць не на Радзіме, а ў Расіі.**

## «Піскля» Махамед Алі

Не памылюся, калі скажу, што ў абываталя прафесійны бокс найперш асацыюецца з двума прозвішчамі — Махамед Алі і Майк Тайсан. Можна казаць, што якраз гэтыя людзі і зрабілі бокс настолькі папулярным сёння.

Ураджэнец штата Кентукі Махамед Алі (пры нараджэнні Касіус Клей) некалі трапна ахарактарызаваў працу баксёра: «Рукі працуюць, вочы бачаць. Лётай, як матылёк, джаль, як пчала».

У 18 гадоў Клей стаў алімпійскім чэмпіёнам. Амаль адразу пасля гэтага перайшоў у прафесійны бокс. Ужо ў сваім першым паядынку ён адправіў у накаўт папулярнага ў той час Ламара Кларка (пасля гэтага той прыняў рашэнне завяршыць кар'еру). За сваю кар'еру Алі дзевяць разоў выйграваў пояс чэмпіёна свету ў розных асацыяцыях.

Апроч баёў Касіус Клей запомніўся яркай біяграфіяй. У 1960-я ён уступае ў арганізацыю «Нацыя ісламу», якая аб'ядноўвала афраамерыканцаў ЗША. Сярод яе ідэолагаў быў Малкальм Ікс, які марыў пра «рэкі крыві белых на амерыканскіх вуліцах». Касіус прымае мусульманскае імя Махамед Алі.

У 1967 годзе, у самы разгар вайны ў В'етнаме, Махамеда прызываюць у войска. Баксёр адмаўляецца, пасля чаго атрымлівае тры гады турмы. Першы пасля турмы супернік Оскар Банавера называе Алі «пісклём». Махамед адпраўляе яго ў накаўт.

Амерыканскі часопіс Sports Illustrated сумесна з BBC назваў Алі «спартсменам XX стагоддзя».



**Кумір 80-90-х Майк Тайсан мае складаны характар і ўвесь час трапляе ў непрыемныя гісторыі.**

## Цяжкі Тайсан

Майк Тайсан — гэта ўжо кумір 80-х і 90-х. Ён згубіў найменш часу ад дэбюту да заваявання тытулу (год і восем месяцаў) і быў самым маладым чэмпіёнам свету (20 гадоў).

«Жалезны Майк» нарадзіўся ў Брукліне, ён з дзяцінства трапіў у мясцовыя банды, якія рабавалі магазіны, спустошвалі кішэні жыхароў Нью-Ёрка. Натуральна, такая актыўнасць прывяла Тайсана ў выпраўленчую ўстанову для непаўналетніх. Аднойчы да цяжкіх падлеткаў прыехаў Махамед Алі. Тайсан кажа, што менавіта тая сустрэча крута памяняла яго жыццё.

Менавіта ў спецшколе для цяжкай моладзі 13-гадовы Тайсан пасля трапляння ў карцар сказаў тамтэйшаму трэнеру, што хоча стаць баксёрам. Трэнер згадзіўся пры ўмове, што Тайсан пачне добра вучыцца. Настаўнікі заспявалі яго ў спартзале глыбокай ноччу.

У 1986 годзе ён заваёўвае першы чэмпіёнскі тытул, а праз год трапляе ў першы сур'ёзны скандал, калі яго абвінавачваюць у спробе згвалтавання супрацоўніцы платнай аўтастаянкі.

Так будзе і надалей: буйныя выйгрышы будуць чаргавацца ў Тайсана з непрыемнымі гісторыямі з асабістага жыцця. Як і Алі, ён таксама прайшоў праз турму, прыняў іслам (імя — Малік Абдул Азіз) Але аматары спорту любяць атлетаў складанага лёсу, узяць хаця б нашага футбаліста Пракапенку. Тайсана багомілі мільёны, ён стаў кумірам. Ягонае імя зрабілася імем агульным.

## Брат за брата

У сённяшнім прафесійным боксе рэй ужо не вядуць амерыканцы. У апошняе дзесяцігоддзе на першы план выйшлі байцы з абшараў былога СССР.

І першыя ў гэтым шэрагу — украінскія браты Клічко. Віталь становіцца ўпершыню чэмпіёнам свету ў 1999 годзе, Уладзімір — у 2000.

Гэтыя дабрадушныя хлопцы зрабіліся сапраўдным адкрыццём сусветнага боксу. Крок за крокам яны ўпарта ішлі да сваёй мэты. Нельга сказаць, што ім давалася ўсё лёгка. Уладзіміру давялося правесці аж 36 баёў, перш чым атрымаць пояс, Віталю — 25.

Апроч боксу іх цікавіць палітыка. У час Аранжавай рэвалюцыі яны былі на Майдане, каб падтрымаць Віктара Юшчанку.

У розныя часы гегемонію ўкраінцаў спрабавалі парушыць наш Сяргей Ляховіч, расійцы Мікалай Валуеў (яго яшчэ называюць «Зверам з Усходу», рост Валуева — 213 см, вага — 146 кілаграмаў), Алег Маскаеў, Султан Ібрагімаў, узбек Руслан Чагаеў («Белы Тайсан»).

Тым не менш, на сёння браты Клічко, бясспрэчна, — наймацнейшыя баксёры ў свеце. Уладзімір Клічко яшчэ раз пацвердзіў гэта 2 ліпеня, калі перамог брытанскага баксёра Дэвіда Хэя ў бойцы за тытул чэмпіёна свету ў суперцяжкай вазе па версіях IBF, WBA і WBO. Спартовыя агляльнікі кажуць, што больш біцца ім няма з кім. Адзінай інтрыгай магло б стацца, каб браты выйшлі на бой паміж сабой, але ўсе цудоўна разумеюць, што гэтага ніколі не будзе.

# Праблема баршчэўніка

Як даць рады заразе?

Небяспечная для здароўя расліна: адзін дотык да яе выклікае апёк. З вёсак ён наступае на гарады. Спакойна расце ўзбоч цэнтральнай вуліцы горада-спадарожніка сталіцы — Заслаўя. Ён тут не навасёл. Штогод яго гіганцкія зараснікі «ўпрыгожваюць» схілы замчышча.

Праблема баршчэўніка ў Беларусі набыла агульнанацыянальны характар. Ён «захапіў» тэрыторыі Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай абласцей. У Мінску ён акупаваў каля 200 гектараў. Эксперты нават кажуць пра небяспеку экалагічнай катастрофы.

Штогод пасля кантакту з баршчэўнікам па меддапамогу звяртаюцца сотні людзей, многім патрабуецца шпіталізацыя. Летась толькі ў бальніцу хуткай дапамогі ў Мінску трапілі каля 90 чалавек, 20 было шпіталізавана. Сёлета ў бальніцу ўжо трапілі каля 30 чалавек.

Яшчэ ў 2008 годзе быў прыняты План дзеянняў па прадухіленні і мінімізацыі шкоды ад распаўсюду шкоднага чужароднага віду раслінаў — баршчэўніка Сасноўскага.

У Мінску яму абвясцілі вайну. Камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя збіраўся за два гады вынішчыць яго. Аднак задача ўскладняецца тым, што баршчэўнік наступае на сталіцу з прыгарадных раёнаў.

СМІ паведамлялі, што небяспечная расліна ўшчыльную падышла да аднаго з дзіцячых садкоў у Курасоўшчыне.

Змагацца з баршчэўнікам надзвычай складана. За суткі гэтая зараза вырастае на 7 см.

Баршчэўнік — шматгадовая расліна, кветкі могуць з'явіцца ўжо на трэці год. Адна расліна здольная даць да 60 тысяч адзінак насення.

Калі вы не пазбеглі сустрэч з баршчэўнікам, пастарайцеся як найхутчэй абмыць пацярпелы ўчастак цела вадой з мылам. Калі пухіры ўсё ж з'явіліся — неадкладна да доктара.

**Сямён Печанко**

**Баршчэўнік Сасноўскага**

(Heracleum sosnowskyi) экзатычная паўднёвая расліна. Завезлі яе ў Беларусь саветы ў 1950-я дзеля вырошчвання на сілас. Аднак выявілася, што расліна хутка дзічэе і шкодзіць мясцовай флоры. Вырастае да трох метраў у вышыню, мае буйныя лісты. Вынішчае абарыгенныя віды раслін, засціляючы ім сонца. Вялікая колькасць насення (да 60 тыс. ад кожнай расліны) дазваляе асвойваць вялікія тэрыторыі. Насёны могуць ляжаць у зямлі 3-4 гады, а пасля ўзысці. Квітнее рана. Прыстасаваны да самаапылення, насенне разносіцца вадой і ветрам. Выдзяляе празрысты фотатаксічны сок, які, трапіўшы на чалавечую скуру, пад уздзеяннем ультрафіялетавага выпраменьвання выклікае апёкі і пухіры. Пухіры ператвараюцца ў гнайнікі, а потым утвараюцца раны, якія доўга не гояцца. Адзіны сродак барацьбы з ім — касьба.



СЯМЁН ПЕЧАНКО




## Рэдкая вакансія: патрабуюцца п'яніцы

Такая дзіўная абвестка была заўважаная ў Брэсце. Як выявілася, задумка кліпа з удзелам п'яніцаў узнікла ў брэсцкага панк-гурта «Дай дарогу». Іх песня называецца «Па-сіняму» і яна пра алкагалізм, «толькі вясёлая». Каларытныя ж асобы паводле сюжэту мусяць увасабляць музыкаў панкавага гурта.

«Нам трэба рэальныя тыпажы, — кажа вакаліст «ДД» Юрый Стыльскі. — Бываюць такія творчыя людзі, якія спіліся, якім цяпер гадоў па 40—60. Натуральна, каб яны былі без тармазоў, маглі спяваць, танцаваць...» Калі для натхнення трэба допінг, музыкі абяцаюць «наліць». Плацяць па 200 тысяч за кожны дзень здымак, «хоць, вядома, ідэальна было б уклаліся ў адзін дзень».

Ужо адгукнуліся 3—4 артысты. Музыкі пакуль збіраюць іх кантакты, каб наладзіць кастынг. «Нам раілі абвесткі ў вёсках павесіць, можа, там знойдуцца самародкі», — кажа Стыльскі. Кліп яны плануюць здымаць у жніўні.

**Сяргей Мікулевіч**

## Расіяне прыдумалі, як не плаціць мыта за аўтамабіль з Беларусі

У Расіі з'явілася шмат машын з беларускімі нумарамі. Гэта прымусіла расійскіх чыноўнікаў задумацца над праблемамі Мытнага саюза. «Шэрая» схема ўвозу аўтамабіляў з Беларусі занепакоіла Міністэрства прамысловасці і гандлю Расіі.

«Чалавек прыязджае ў Мінск, афармляе мясцовую рэгістрацыю, пад гэту справу купляе аўтамабіль, — апісвае схему ўвозу машын дырэктар дэпартамента аўтамабільнай прамысловасці Мінпрамгандлю Расіі Аляксей Рахманаў. — Потым ён ставіць яго на ўлік у Беларусі і спакойна ездзіць па Маскве, ні ў чым сабе не адмаўляючы». Па яго словах, набыццё аўта такім чынам выходзіць «са зніжкай у 20%».

Чыноўнік падкрэсліў: пасля адмены ўнутраных мытных межаў з Беларуссю і Казахстанам кантроль за ўвезенымі з гэтых краін аўтамабілямі робіцца немагчымым.

Па расійскіх патрабаваннях, калі аўтамабіль знаходзіцца на тэрыторыі рэгіёна больш за шэсць месяцаў, ён павінен прайсці рэгістрацыю. «Але з улікам таго, што мытныя межы знятыя, у нас няма адзнакі пра перасячэнне мяжы, таму мы не ведаем, колькі знаходзіцца на тэрыторыі Расіі аўтамабіль на сёння», — прызнаў Рахманаў.

На яго думку, выправіць сітуацыю складана: «Мы маем справу з недаінтэграцыяй Мытнага саюза: падатковае заканадаўства не сінхранізавана з мытным. У прыватнасці, падатковае заканадаўства па-рознаму ўжываецца ў Беларусі і ў Расіі».

Дырэктар дэпартамента бачыць выйсце ў тым, каб «рэкамендаваць беларускаму боку» прыняць рашэнне па сінхранізацыі мытнага заканадаўства, што датычыць аўтамабіляў.

**ЯВ**

КАМЕНТАР

# Вяртанне ў краіну Залюстроўя

Піша **Сямён Печанко**.

«Мяняем рублі на даляры, еўра, грыўні!» Цягнік «Сімферопаль-Мінск», украінска-беларуская мяжа. Услед за памежнікамі і мытнікамі па вагонах ходзяць валютчыкі. Абмен беларускіх рублёў на замежную валюту — кан'юнктурная навінка сезону. У 2007 годзе па дарозе на Азоўскае мора я не бачыў такога. Валютчыкі былі, але не на самай мяжы. І яны не прапаноўвалі нічога, акрамя грыўні. Чатыры гады таму многае было інакш. Цяпер, каб зразумець, што на радзіме нешта не так, варта з'ехаць за мяжу на два тыдні. І неабавязкова далёка, дастаткова Украіны.

Тады, у 2007-м, Марыупаль уразіў горамі смецця і нізкімі заробкамі месцічаў. Той, хто не быў заняты на металургічных прадпрыемствах, у літаральным сэнсе выжываў за кошт турыстаў. Вяртаючыся ў хірургічна чысты Мінск, я тады сутыкнуўся з дзіўным пачуццём лёгкай перавагі над украінцамі. Беларусь узору 2007-га раптам падалася мне больш заможнай і, прабачце, стабільнай. Цяпер заробкі і пенсіі ў Беларусі і Украіне параўналіся.

Сёлетняя вандроўка ў Крым нарадзіла якасна іншыя ўражанні. Дзясятак дзён, праведзеных ледзь не ў ідэальным інфармацыйным вакууме, зрабілі сваю справу. Па дарозе дамоў, дарваўшыся да інтэрнэту, чытаў навіны невялікімі порцыямі. «Афіцыйна забараніў продаж валюты...», «пляскаць у ладкі толькі ветэранам» — навіны, што мераліся адна з адной ступенню абсурднасці, проста прыгаломшвалі. Хвалёны беларускі рай!

Украінскі віцэ-прэм'ер Цігіпка не вылазіць з тэлевізара, да хрыпаты даказваючы неабходнасць радыкальных зменаў у пенсійнай сістэме, а ў нас далёка не кожны ведае, хто такі Мясніковіч. Міжволі пачынаеш адчуваць сябе жыхаром Залюстроўя.

Беларусь пачынае адставаць ад Украіны.

У Ялце са мной здарыўся такі выпадак. Я пайшоў наведаць санаторый «Энергетык», у якім школьнікам адпачываў сямнаццаць гадоў таму. Тады мы жылі ў невялікім корпусе недалёка ад узбярэжжа, у сталоўку хадзілі праз масток у большы корпус. Зайшоў у двор, падрыхтаваў фотаапарат. Тут амаль нічога не змянілася за два дзесяцігоддзі. Тыя ж абшарпаныя сцены, старыя аканіцы. «Што вы тут фатаграфуеце?» — учэпісты позіркам мяне свідравала жанчына ў халаце. Са словамі, што аднойчы яна ўжо затрымала замежнага шпіёна, яна адвяла мяне да ахоўніка. «Вы фатаграфавалі аб'ект, таму мы мусім запісаць вашы звесткі». На мае словы пра 17 гадоў адказала, што 15 гадоў адпрацавала ў крымінальным вышуку. Выйшаў на вуліцу, перайшоў канал па мастку, апынуўся каля другога корпуса. І не пазнаў яго. Побач з'явіўся навюткі фантан, у будынку адчыніла кавярню, краму акварыумных рыбак... Пра савецкае мінулае нагадвае хіба ляпніна на фасадзе. Гэты дысананс навёў на адну думку. Апошнія месяцы Беларусь з асаблівай хуткасцю аддаляецца ад суседзяў. І ўсё больш ператвараецца ў стары савецкі санаторый, якім кіруюць людзі з крымінальна-вышуковым мінулым.

# Самы дзіўны парад без апладысментаў

**На афіцыйных святкаваннях у Мінску ціхароў было больш, чым гледачоў.**

Сёлета ўпершыню трапіў на парад у гонар 3 ліпеня. Глядзець на гэтае дзеянне асаблівага жадання не было, а цяпер атрымаў рэдакцыйнае заданне — не адкруцішся.

Накіраваўся да вызначанага месца праспектам Машэрава (былой вуліцай Варвашэні). Кандуктаркі трамвая скардзіліся, што ніякай працы ў гэты дзень няма, бо «ўсё перакрыта». «Заўтра білеты ў тры разы даражэй каштаваць будуць, — палохала адна з гаваркіх пасажырак. — Пасля такога параду!»

На скрыжаванні з Куйбышава праспект Машэрава ўжо быў перакрыты — на праезнай частцы дарогі стаяла вайсковая тэхніка. Самыя розныя танкі, ракетныя ўстаноўкі. Праз кожныя паўметра — салдат у плашчыпалатцы, ці міліцыянт, ці нехта яшчэ ў цывільным. Нават пачаў лічыць, але на семдзесят восьмым стаміўся, бо канца-краю ім бачна не было. Калі верыць «Во славу Родіны», каштавала гэтае дзейства кожнаму беларусу ўсяго толькі дзесяці грамаў каўбасы.

Людской лавіны, што б ішла падзівіцца на парад, не назіралася. Ну, магчыма, будуць ісці праспектам Пераможцаў, думаю. На мосце праз Свіслач чакаў «фэйскантроль». Аднак назваць яго вельмі строгім язык не паварочваецца. У мяне з сабой быў заплечнік, дык прапусцілі з ім без ніякіх праблем.

Далей без перашкод дайшоў да трыбун. Ну, тут ужо дакладна без адпаведнага запрашальніка не пусцяць, тым больш за нейкія дваццаць хвілін да пачатку параду. Спрабую — ноў проблем. На ўваходзе раздаюць дзяржаўныя сцяжкі і бээрэсэмаўскія. Станаўлюся на трыбуне амаль насупраць таго месца, дзе будзе выступаць Лукашэнка. Сярод гледачоў дастаткова шмат ціхароў з дроцікамі ў вуху. Нейкія іншыя людзі ў цывільным, арганізатары, вышукваюць ветэранаў, каб пасадзіць на машыны і правезці перад гледачамі. Ветэранаў нямнога. Пры мне знайшлі толькі аднаго.



АНТОН МАТОЛЬКА

БРСМаўцы раздавалі сцяжкі.

**У парадзе брала ўдзел і расійскае падраздзяленне**

На самым пачатку параднай калоны, пасля барабаншчыкаў суворaўскага вучылішча, перад трыбунамі прайшлі расійскія вайскоўцы — парадны разлік 76-й гвардзейскай дэсантна-штурмавой Чарнігаўскай Чырванасцяжнай дывізіі Узброеных Сілаў РФ — 150 чалавек. Элітная дывізія Чарнігаўскай толькі называецца, яна дыслакаваная ў Пскове. Тое, што расійскія войскі адкрыюць парад у афіцыйны Дзень незалежнасці Беларусі, Міністэрства абароны патлумачыла павагай да гасцей. Летась 3 ліпеня ў параднай калоне таксама былі госці: расійскі і ўкраінскі разлікі. Сёлета ўкраінцы не прыехалі.

Апроч таго, у калонах вайсковай тэхнікі ехалі зенітныя ракетна-гарматныя комплексы «Панцыр-С1» УС РФ.



Прадстаўнік МУС: за парадам назірала 150 тысяч чалавек. Паводле ацэнак рэпарцёраў, публікі было не больш за 5 тысяч.



АНТОН МАТОЛЬКА

Які парад без хакеістаў!

**Рэкордны парад**

Сёлета ў парадзе ўзяла ўдзел рэкордная колькасць вайскоўцаў за ўсе гады незалежнасці Беларусі. Перад Лукашэнкам прайшлі 3,5 тыс. чалавек, а матарызаваная калона ўключала больш за 130 адзінак баявой тэхнікі, яна расцягнулася амаль на 2 кіламетры.

Кантынгент на трыбунах розны — і старыя, і малыя. Але людзей зусім нямнога. Максімум — тысяч пяць. Тым большае было здзіўленне пасля, калі міліцыя абвесціла, што за парадам назірала 150 тысяч чалавек. Можа, астатнія «назіралі» праз тэлевізары?

Узнікла ўражанне, што было шмат тых, хто прыехаў паглядзець на сваякоў ці блізкіх, якія ўдзельнічаюць у парадзе. Дзеўкі на трыбуне, дзе знаходзіўся я, штораз вішчэлі, калі праходзілі хлопцы-МНСнікі. Яўна там былі іх каханыя.

Дыктар гучна абвяшчае, што прыбывае Лукашэнка. Хлопцы перада мной абмяркоўваюць, што за марка аўтамабіля. Кіраўнік выходзіць з машыны, але прыём яго чакае досыць сціплы. Рэдкія апладысменты. І, здаецца, не таму, што нехта баяўся затрыманняў. Проста з'яўленне першай асобы дзяржавы не выклікала ў людзей ажыўлення. Яны прыйшлі на парад дзеля іншага. Невялікае ажыўленне выклікае выхад Мікалая Лукашэнкі. «О, Коленька!» — пранеслася па шэрагах.

Але калі Лукашэнка пачаў выступаць, ніхто побач апладзіраваць не стаў, як заклікалі ініцыятары «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку». Пратэстамі тут нават не пахла.

Хаця ў іншых месцах святкавання, воддаль трыбун, нешматлікія затрыманні былі. (Праваабаронцы пасля назавуць лічбу: 70 затрыманых за раніцу параду, а ўсяго каля 350 у краіне за дзень.) Роўна як і не пахла цікавасцю да прамовы галоўнакамандуючага. Лукашэнка ж выкрываў планы Захаду адносна рэвалюцыі ў Беларусі і стварэння «залатога мільярду» жыхароў Зямлі, якія будуць жыць у раскошы за кошт астатніх.

Прамова ягоная была лаканічнай. Мы ж ведаем, што Лукашэнка можа гаварыць на публіку гадзінамі, а тут абмежаваўся нейкімі дзесяццю хвілінамі. Магчыма, пераважала жаданне хутчэй скончыць гэты парад у час крызісу.

Потым пачаўся ўласна парад. І пры выглядзе танкаў ды самалётаў на тварах людзей упершыню з'явілася шчырая зацікаўленасць. Яны задзіралі галовы ўгору, каб пабачыць знішчальнікі і верталёты. Крытыкавалі толькі, што стужкі, якія заставаліся пасля пралёту самалётаў, былі малінавая і салатавая, а не чырвоная і зялёная.

Калі пайшлі атлеты, паціху пачалі разыходзіцца і прысутныя. А перад трыбунамі апалітычна ішлі фізкультурнікі, рабочая моладзь, «будатрадаўцы» з гітарамі.

Былі і трэшавыя моманты — дзеці з сцягам, на якім быў напісаны шматзначны дэвіз «З намі Бог», а таксама «закаханыя» трактары. «Хлопец» (самец?) меў вусы на радыятары і капялюш на даху, «дзяўчына» — поўныя вусны і блакітныя вочкі. Трактары выраблялі вальсавыя па на праспекце.

У цэлым парад быў сціслы. У 13:20 ён скончыўся.

Дзіўны сёлета выйшаў дзень рэспублікі. Свята сапраўднага ўжо не было, але не было яшчэ і сапраўды масавых пратэстаў перад трыбунай.

**Зміцер Панкавец**

**Мінабароны: як 10 грамаў каўбасы**

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН начальнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Уладзімір Макараў, кошт параду быў роўны кошту прыблізна 10 грамаў каўбасы на кожнага жыхара краіны — усяго сто тонаў. Канкрэтны сорт гэтай умоўнай каўбасы, як і прынцып падліку, застаўся загадкай. Макараў паведаміў толькі, што каўбаса гэта танная, а калі б пералічыў у самай дарагой, дык было б толькі па граме на жыхара.

Эксперты мяркуюць, што Макараў уключыў у разлік толькі цану бензіну. Методыкі падліку падпсаванага асфальту, перакрытых вуліц, а тым больш шматдзённай працы тысяч спецназаўцаў, міліцыянтаў, салдат, супрацоўнікаў спецслужбаў і простых удзельнікаў параду не існуе.

# Хвароба Чавеса: на ранняй стадыі выжываюць 99%

У прэзідэнта Венесуэлы знайшлі рак.

У панядзелак ранкам Уга Чавес вярнуўся ў Каракас і выйшаў на балкон прэзідэнцкага палаца, каб прывітаць венесуэльцаў. Гэта было яго першае за доўгі час з'яўленне на людзях, калі не ўлічваць пятнічны тэлевыступ, у якім Чавес паведаміў, што знаходзіцца на Кубе і што ў яго дыягнаставалі рак.

«Дактары пацвердзілі існаванне злаякаснага абсцэсу, у якім прысутнічалі ракавыя клеткі, што выклікала патрэбу паўторнай аперацыі для поўнага выдалення пухліны», — заявіў ён.

Які ў яго рак і на якой стадыі, ён не расказаў. Аднак у прэсе з'явілася паведамленне, што гэта пухліна кішэчніка і кубінскія дактары позна яе заўважылі. Аперавацць Чавеса прывезлі хірурга з Іспаніі.

Падтрымку Чавесу выказалі браты Кастра. Фідэль ва ўласцівым яму стылі адзначыў, што Чавес ідзе на папраўку, і гэта «будзе чарговай перамогай Венесуэлы». Дарэчы, паведаміў Уга пра страшнае захворванне асабіста Кастра — абодва дыктатары лечацца ў адным шпіталі.

Звесткі пра тое, на якой стадыі хвароба Чавеса, не раскрываюцца. На пачатковых этапах яе можна спыніць, але тое, што Чавесу прызначана дадатковае лекаванне, можа значыць якраз, што хвароба паспела развіцца.

Адной з прычын раку кішэчніка лічаць нездаровае харчаванне — завялікую колькасць мучнога і вострага. Пры гэтым Чавес вядомы як вялікі аматар кавы, якая, калі верыць навукоўцам, наадварот, спрыяе прафілактыцы гэтага віду анкалогіі.

Чавес вярнуўся ў Каракас не таму, што цалкам адужаў. 5 ліпеня яго Баліварыянская рэспубліка святкавала двухсотгоддзе незалежнасці, і Чавес не мог прапусціць урачыстасцяў.

Рак кішэчніка — захворванне, выпадкі якога рэгіструюцца ўсё часцей, асабліва ў людзей ва ўзросце за сорак. Чавесу цяпер 56. Агульны прагноз па хваробе ў цэлым выглядае так: калі рак не распаўсюдзіўся за межы кішкі, прагноз выжывання складае 99 працэнтаў. Калі адбылося прарастанне ў сценкі кішкі — 85 працэнтаў, 66 — калі перайшло на лакальныя лімфатычныя вузлы, і 35 — калі хвароба перайшла на дальнія лімфавузлы. У 10% выпадкаў дактары выводзяць кішку навонкі пажыццёва.

Існуе думка, што калі са здароўем Уга будзе і надалей дрэнна, яго заменіць ягоны брат Адан Чавес. Узаемаадносіны братоў нагадваюць іншую палітычную сям'ю — згаданых братоў Кастра.

**Юрась Ускоў**


Прыхільнікі Чавеса ў часе святкавання Дня незалежнасці ў Каракасе.



**24 чэрвеня ў пасольстве Венгрыі прайшоў урачысты прыём з нагоды сканчэння старшынёўства краіны ў Еўрасаюзе. Цэнтральным сюжэтам прыёму стала сімвалічная беларуская дыктоўка ў знак салідарнасці з палітвязнямі. Пісалася яна паводле «Лістоў з-пад шыбеніцы» Каліноўскага. У ёй узялі ўдзел паслы Вялікабрытаніі, Польшчы, Францыі, Чэхіі, Эстоніі, прадстаўнікі пасольстваў ЗША, Румыніі, ФРГ, кіраўнікі прадстаўніцтваў ЕС і Еўракамісіі, сваякі палітвязняў, палітыкі і рэдактары незалежных выданняў.**
**На фота: дыктоўку паводле Каліноўскага піша Лешак Шарэпка, новы пасол Польшчы — краіны, якая пераняла старшынёўства ў Еўрасаюзе.**

## Лазернае шоу на радзіме Лукашэнкі

У аграгарадку Александрыя 6 ліпеня ладзіцца шыкоўнае Купалле.

На свяце «Александрыя збірае сяброў» забаўляць людзей будуць «найлепшыя самадзейныя калектывы аграгарадкоў Магілёўшчыны».

Арганізатары абяцаюць скокі парашутыстаў і паходны кінатэатр. Кропку ў святкаванні Купалля паставяць феерверк і лазернае шоу.

**Паводле БелТА**

## Саўка ды Грышка — DVD, каб прагнаць нуду

Справаздача Вольскага-сатырыка за год.

Саўка ды Грышка, якія калісьці ладзілі дуду ў дзіцячай песеньцы, пасталелі і атабарыліся на хвалях радыё «Свабода». Так называецца аўтарская перадача Лявона Вольскага, у якой раз на тыдзень гучыць вострааактуальная песня ад імя гэтых яго двух персанажаў. Прычым адзін з іх трымаецца апазіцыйных поглядаў, а другі пагаджаецца з афіцыйным курсам.

Вынікам года такой дзейнасці стаў дыск «Саўка ды Грышка. Год першы», які ў музычным плане, можа, і не захопіць, а вось «павесяліцца ды прагнаць нуду» — гэта калі ласка.

На дыску 50 песняў Саўкі ды Грышкі, а таксама чатыры відэа — маем сцёбна-прыпевачны летапіс 2010-2011.

Вольскі-сатырык не слабейшы за Вольскага-рокера. Аматары сур'ёзнай пратэставай музыкі наўрад ці атрымаюць задавальненне ад танга «Амерыканка» альбо радкоў кшталту «я тэлевізар сматру паўтру, а ўпрочэм і вечарам тожа сматру». На дыску — кабарэ. Ён дае магчымасць з усмешкай згадаць падзеі.

Бонусам на DVD запісаная «Бібліятэка «Свабоды», што, канечне, не дробязь і вельмі прыемна.

**ЮУ**

## У Трастбанку з'явіўся дэпазіт «Скварка»

Азнаёміцца з яго ўмовамі можна на сайце банка.

Зрабіць уклад па «Скварцы» — акцыя запушчаная 20 чэрвеня — можна тэрмінам на тры месяцы пад 28,5% гадавых. Мінімальная сума — 1 мільён рублёў. Уклады па «Скварцы» прымаюцца толькі ў нацыянальнай валюце.

Ці з'явіцца ў кліентаў банка магчымасць укладаць свае зберажэнні ў дэпазіт «Чарка», пакуль не паведамляецца.

**АГ**



**Так выглядае Купалаўскі тэатр у працэсе рэканструкцыі. У абноўленым выглядзе гістарычны будынак адкрыецца пры канцы 2012 года.**

## Кебіч: «Беларускі эканамічны цуд» не адбыўся

Экс-прэм'ер кажа, што яму сорамна за Пракаповіча.

Вячаслаў Кебіч узначальваў урад БССР, а затым Рэспублікі Беларусь у 1990—1994 г.

Нядаўна былы прэм'ер-міністр даў інтэрв'ю часопісу Sexus. І там не абышлося без даволі жорсткай крытыкі цяперашніх уладаў.

— У пачатку 1990-х у народзе пераважала зухаватая свабода, а цяпер — страх, — лічыць Вячаслаў Кебіч.

— Мне сорамна, калі людзі тоўпяцца ля абменнікаў або змятаюць тавар з паліцаў крамаў, — сказаў Кебіч. — Яшчэ мне сорамна за галоўнага банкіра Пракаповіча. Хіба можна на ўсю краіну дакляраваць: «Пакуль я кіраўнік Нацбанка, я вам заяўляю, што курс даляра будзе стаяць на месцы — у межах калідора плюс-мінус 5%». Ён жа бачыў, што нічога такога і ў памоўцы няма. Ну нельга вось так з народам жартаваць! Калі які-небудзь кіраўнік заяўляе «так», значыць, будзе «не».

«Беларускі «эканамічны цуд» не адбыўся, — рэзюмаваў Кебіч. — Зрэшты, не выцягвайце з мяне больш нічога... Мне ўжо 75 гадоў...»

**СМ**



# «Флірт» у тэставым рэжыме

**Новая электрычка — гэта камфортна і зручна, трошкі даражэй, чым звычайным цягніком, але танней, чым маршруткай.**

«Два квіткі на «новую» электрычку да станцыі «Беларусь», калі ласка!» — просіць сталага веку мужчына ў акенцы новых прыгарадных касаў Чыгуначнага вакзала. Вольных месцаў у электрычцы было вобмаль яшчэ да адпраўлення. 1 ліпеня пачаліся тэставыя рэйсы новых электрычак, прызначаных для абслугоўвання гарадскіх ліній.

### Плаўна, ціха і амаль без звыклага «ту-ту, ту-ту»

Першае ўражанне ад новай швейцарскай электрычкі — наколькі незаўважна яна кранаецца з месца. Цягнік кранаецца незаўважна для пасажыраў, едзе без рыўкоў, ціха, амаль без звыклага грукату колаў, што нагадала пра сябе хіба аднойчы, недзе паміж Ратамкай і Крыжоўкай.



СЯМЁН ПЕЧАНКА

У салоне пануе прахалода — кандыцыянеры працуюць бездакорна. Пасадка вагонаў нізкая, дзякуючы чаму ўзровень падлогі ў іх супадае з вышынёй перонаў. Два разы зайшоў-выйшаў — і пра карасканне па нязручных і высокіх прыступках старых савецкіх электрычак пачынаеш успамінаць з дрыготкай. У салоне можна працаваць з ноўтбукам, падзарадзіць тэлефон. Маніторы паведамляюць пра маршрут цягніка, актуальную дату і час, тэмпературу паветра і хуткасць руху. Каля ўваходу ў прыбіральню выстраілася невялікая чарга — усім хочацца пабачыць, якая яна ў швейцарцаў.

### «А чаму тут цэны не як у трамваі?»

Набыць квіткі можна не толькі ў касах вакзалаў, але і ў кандуктараў непасрэдна ў дарозе. Адна з іх трапіла пад град пытанняў цікаўных пасажыраў. «А чаму ў іншых электрычках адразу штрафуюць, а не абілечваюць на месцы?» — пытае мужчына, з цікаўнасцю разглядаючы партатыўны касавы апарат у руках кандуктаркі. — «Бо гэта гарадская электрычка». Мужчына не супакойваецца: «Гарадская? А чаму тады тут цэны не як у трамваі?» Жанчына цярпліва тлумачыць, што рэйсы толькі пачаліся, і ўвогуле яны тэставыя, па выніках будуць распрацаваныя канчатковыя расцэнкі. Да размовы пачынаюць прыслухоўвацца спецназаўцы, што суправаджаюць цягнік, седзячы каля ўваходу ў кабіну машыніста. Перад ад'ездам з Мінска яны паспелі праверыць у групы чарнявых мужчынаў дакументы. Выцягваюць шыю і супрацоўнікі чыгуначнай аховы, якіх апранулі ў новую форму і высокія берцы.

### «Будьте внимательны и осторожны!»

Маніторы і табло ў новых цягніках расійскамоўныя. Як і расклады руху і табліцы з пазнакай нумароў перонаў на адрамантаваных прыпынках у Масюкоўшчыне і Ждановічах. Пра тое, што дзверы можна адчыніць, націснуўшы на зялёную кнопку, толькі пасля спынення, жаночы голас кажа па-расійску. «Будьте внимательны и осторожны!» — прамаўляе ён. І тут гучыць знаёмы




СЯМЁН ПЕЧАНКА

ўсім пасажырам электрычак жаночы голас, які абвяшчае назвы прыпынкаў па-беларуску. Гэты ж голас, які колькі разоў агучвае прыпынкі не ў патрэбны час, а таксама лёгкая нервовасць у паводзінах персаналу, яшчэ раз нагадвае, што сёння новыя электрычкі ўпершыню вязуць пасажыраў.

### Даражэй, чым на «звычайнай», але танней, чым на маршрутцы

Новая электрычка ў тэставым рэжыме будзе рабіць па чатыры рэйсы ў дзень у абодва бакі. З Мінска ў Заслаўе яна выпраўляецца ў 07.05, 08.57, 17.15 і 19.10. У адваротны бок стартуе ў 08.02, 10.12, 18.05 і 20.10. Шлях ад сталіцы да горада Рагнеды і Ізяслава ў сярэднім займае сорак хвілін.

Квіток да Заслаўя на новую электрычку каштуе 2000 рублёў (на «звычайную» — 1550). Праязны на месяц каштуе 68000 рублёў, у працоўныя дні — 60000, у выходныя — 24000. Льготны абанемент абыдзецца ў 32 тысячы, дэкадны на прад'яўніка — 24. Гэта даражэй, чым на «звычайнай» электрычцы, але танней, чым на маршрутцы, за якую ад Заслаўя да Чыгуначнага вакзала ў Мінску трэба заплаціць 5500 рублёў. Як жыхар Заслаўя, дазволю сабе меркаванне зацікаўленага пасажыра. Я гатовы плаціць за камфорт і зручнасць і 3000, але такая электрычка мусіць хадзіць у найбольш напружаны час не радзей, чым кожныя 30--40 хвілін. Думаю, у Заслаўі знойдзецца дастакова людзей, якія падзяляюць такую думку і якім надакучыла трэсціся ў маршрутках, ды яшчэ за 5500.

* * *

Беларуская чыгунка заключыла кантракт са Stadler Bussnang AG на пастаўку 10 электрацягнікоў новага пакалення ў сакавіку 2010 года. Пяць з іх прыбудуць у Беларусь у 2011 годзе, астатнія — у 2012-м. Прэзентацыя электрацягніка вытворчасці швейцарскай кампаніі адбылася ў Мінску 22 сакавіка 2011 года.

**Сямён Печанко**

## Карэліцкія чыноўнікі не паставілі подпісы пад некралогам пісьменніку з «незалежнага» саюза

29 чэрвеня ў карэліцкай раённай газеце «Полымя» быў надрукаваны жалобны артыкул памяці паэта Рамана Тармолы-Мірскага, які памёр 25 чэрвеня на 76-м годзе жыцця. Звычайна пад некралогамі, прысвечанымі вядомым людзям рэгіёна, стаяць подпісы раённага кіраўніцтва. Пад некралогам паэту з Міра іх няма. Як паведаміў «НН» чытач з Карэліч, першапачаткова подпісы старшыні райвыканкама і яго намеснікаў былі, аднак у апошні момант іх загадалі прыбраць. Магчыма, прычына ў тым, што паэт належаў не да таго пісьменніцкага саюза.

Рамана Тармолу-Мірскага, аўтара шэрагу паэтычных зборнікаў і шматгадовага працаўніка Беларускага тэлебачання і «Беларусьфільма», пахавалі на радзіме.

**СП**

## Другое прышэсце «Рамштайна»

4 лютага 2012 года ў Мінску запланаваны канцэрт нямецкага гурта Rammstein. Ён мае адбыцца ў «Мінск-Арэне». Беларускім гледачам абяцаюць новае шоу «Зроблена ў Германіі 1995-2011».

Праўда, на афіцыйным сайце гурта ў тур-лісце Беларусь пакуль не значыцца (інфармацыя пра канцэрт з'явілася на беларускіх рэсурсах). Згодна з графікам на пачатак 2012 года, 6 лютага Rammstein зайграе ў Каўнасе.

Першы канцэрт знакамітых немцаў у Беларусі адбыўся 7 сакавіка 2010 года. Прыезд суправаджаўся скандалам. Старшыня грамадскай рады па маральнасці Мікалай Чаргінец запатрабаваў ад арганізатараў канцэрту правесці папярэдні прагляд канцэртнай праграмы.

**СП**




# «Камасутру» пераклалі на ўдмурцкую мову

**Перакладчык прыдумляў новыя словы.**

Вядомы індыйскі трактат пра каханне «Камасутра» ўпершыню будзе апублікаваны на ўдмурцкай мове. Перакладчыку — празаіку, паэту і драматургу Пятру Захараву — даводзілася прыдумляць новыя словы, бо ва ўдмурцкай мове мала зафіксаванай сэксуальнай лексікі. Мастакі малююць для выдання ілюстрацыі з «удмурцкім нацыянальным каларытам».

Насуперак стэрэатыпам, «Камасутра» не прысвечаная выключна тэхніцы сэксу. Гэта твор пра каханне ў шырокім сэнсе. Там ёсць раздзелы, прысвечаныя псіхалогіі адносінаў, карысныя жыццёвыя парады.

На думку ўдмуртаў, новае выданне «Камасутры» паслужыць папулярызацыі ўдмурцкай мовы і «стане сапраўднай сенсацыяй» для моладзі.

Удмурты — фіна-вугорскі народ, які жыве каля Урала ў Расіі.

Удмуртаў каля 700 тысяч, з іх 500 тысяч жыве ва Удмуртыі. Там яны складаюць, аднак, меншасць. Як і іншыя малыя народы Расіі, яны перажываюць імклівую русіфікацыю.

Незалежнае грамадства Удмуртыі змагаецца за захаванне нацыянальнай тоеснасці.

Спосабы іх культурнай дзейнасці падобныя да тых, якія вялі і цэнтральнаеўрапейскія нацыі. Удмурты выпускаюць паштоўкі на нацыянальнай мове, ствараюць сучасную музыку па-ўдмурцку.

На беларускую мову «Камасутра» перакладалася скарочана і друкавалася ў часопісе ARCHE № 5 за 2000 год. Тэкст — на жаль, без малюнкаў з беларускім нацыянальным каларытам — можна знайсці ў інтэрнэце.

**Сямён Цыбульскі**

### З беларускай «Камасутры»

Любоўныя сваркі

Сваркі паміж каханкамі абнаўляюць каханне, бо любоўная сутычка пікантна прыпраўляе іхныя дачыненні. Цалкам надзейны спосаб распаліць у жанчыне гнеў — гэта назваць яе імем вашай былой каханкі падчас полавага акту або нават пры яго кульмінацыі. Калі вы звернецеся да гэтага сродку, будзьце асцярожныя, бо можна чакаць, што жанчына вырыне з сябе лавіну абразаў або ператворыцца ў ашалелую фурыю. Тады яна можа растаптаць вашыя кветкі або сарваць з сябе ўсе падораныя вамі аздобы.

У такой сітуацыі будзьце да яе ласкавы, і калі яна ў прыпадку качаецца па падлозе, паспрабуйце яе падняць і пакласці ў ложак. Будзьце, аднак, падрыхтаваныя да таго, што пры падыманні з падлогі яна можа ўпіцца пазногцямі вам у твар або выдраць у вас пасму валасоў, а пры пераносе ў ложак можа пачаць біцца нагамі.

Калі ж яна ўрэшце сядзе перад дзвярыма й пачне хліпаць, падыдзеце да яе з супакойлівымі словамі і жэстамі, але майце на ўвазе, што спачатку яна вас мусіць адпрэчыць. Паступова, аднак, яна паддасца, скурчыцца ў вас у абдоймах і будзе ахвочая кахацца ізноў.

Жонкі ў такіх выпадках зазвычай у абурэнні сыходзяць у іншы пакой і замыкаюцца. Але не панікуйце: раней ці пазней яны вяртаюцца і пачынаюць сварку зноў ад пачатку!

Аднак калі ўгневаная жанчына вас пакіне і сыдзе дадому, гэта нагода біць трывогу. Тады не марудзьце ні хвіліны і паспрабуйце яе ўлагодзіць пры пасярэдніцтве сваіх пасланцоў, дзеля чаго можна скарыстацца паслугамі свецкага чалавека, сямейнага сябра або блазна. Праз нейкі час жанчына вернецца і зноў зойме сваё месца ў вашым ложку.

Добра засвоіўшы палажэнні Камасутры, вы заўжды зможаце атрымаць ад жанчыны ўсё, што толькі прыйдзе вам да галавы.

**Паводле ARCHE №5'2000**

# Шлях пілігрымаў. Будслаў

**Карэспандэнт «НН» прайшоў апошні дзень пілігрымкі Мінск — Будслаў, калі людзі нясуць з сабой камяні, сімвалы граху.**

Раніца, 8.00. Вёска Даўгінава (Вілейскі раён) — месца сустрэчы амаль усіх пілігрымак. Да Будслава заставалася ісці крыху больш за 20 кіламетраў. Апошні дзень пешых пілігрымак па традыцыі распачынаецца ранішняй імшой. Потым кароткі сняданак, хуткае збіранне рэчаў і напаўвайсковы вокліч ксяндзоў у мегафон: «Пілігрымка — ставай!» Так каталіцкія вернікі распачынаюць апошні пераход да святыні Маці Божай Будслаўскай — апякункі Беларусі.

Першы прыпынак пілігрымаў адбываецца пасля 2-гадзіннага шляху. Казанне. Затым усе ў ваколіцах вёскі Ваўкалаткі пачынаюць шукаць камяні — сімвал чалавечага граху. З імі вернікі пройдуць яшчэ некалькі кіламетраў. На наступным прыпынку з гэтых камянёў на ўскрайку леса складуць імправізаваны алтар, і святар ля яго адслужыць імшу. Пасля пачынаецца самае цяжкае — пяць дзён нялёгкай пілігрымкі на зыходзе, вернікі прайшлі больш за сто дваццаць кіламетраў, а застаецца менш за дзесяць. Блізкасць Святыні, штодзённыя малітвы, разважанні і новыя людзі — усё зліваецца ва ўзрушаны стан чакання...

Апошні прыпынак за пару кіламетраў да Будслава. Пляц Плачу — сімвал падзякі бліжняму, што быў з табой побач увесь гэты час пешай пілігрымкі. Усе абдымаюцца і плачуць — дзякуюць адно аднаму і просяць блаславення.

І вось Будслаў. Міліцэйскі кардон, песні на падыходзе да касцёла, сустрэча з пробашчам. Апошні шлях да іконы Маці Божай Будслаўскай — на каленях. Дайшлі... Божа, уратуй Беларусь...

**Сяргей Гудзілін**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



## Скандал у Будславе: Віцебскія пілігрымы адмовіліся праходзіць праз металашукальнікі

Ад мінулага года ў Будславе ўсталявалі металашукальнікі, праз якія мусіць прайсці кожны, хто хоча ўзяць удзел ва ўрачыстасцях. Прадстаўнікі Віцебскай дыяцэзіі былі не вельмі ўсцешаныя такімі новаўвядзеннямі. «Пасля таго, як пілігрымка падышла да храма, ксёндз Вячаслаў Барок сышоў на перамовы з міліцэйскім начальствам, — расказвае ўдзельнік Кастусь Шыталь. — Ён прасіў прапусціць вернікаў без асабістага агляду. Барок казаў, што святары бяруць на сябе адказнасць за ўсе прадметы, што нясуць з сабой вернікі». Але міліцыянты на гэта сказалі сваё рашучае «не».

Вернікі ўкленчылі ў малітве перад металашукальнікамі. Частка людзей легла крыжам на асфальце. Урэшце пілігрымы былі вымушаныя пайсці да намётавага мястэчка, каб пакінуць рэчы. Праз металашукальнікі ім усё ж давялося прайсці.

**Зміцер Панкавец**

## Манаеў — народны

30 чэрвеня актору Купалаўскага тэатра Віктару Манаеву прысвоена званне народнага артыста, паведаміў сайт тэатра. Манаеў — бліскучы актор, візітоўка Купалаўскага тэатра. Нарадзіўся 7 жніўня 1958 года ў Мінску. У 1980 г. скончыў тэатральны факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. У тэатры з 1980 г.

Яго найлепшыя ролі — Гаральд («Гаральд і Мод»), Мікіта Зносак («Тутэйшыя»), Ян Губач («Ідылія») ды процьма іншых. У сённяшнім рэпертуары выконвае ролі Манілава («Чычыкаў»), Дзеда Жабрака («Сымон-музыка»), Кручкова («Пінская шляхта»). Апошняя свежая роля — купец Банут («Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»), прэм’ера адбылася ў красавіку.

**СГ**


PHOTO.BYMEDIA.NET

## Выйшла кніжка казак ад Сержука Вітушкі

**Легендарны віленчук кіраўнік «Талакі» выпусціў цудоўную дзіцячую кніжку. Тут і казкі на розныя святы (уключаючы казку на Дзень Волі), тут і традыцыйныя беларускія батлейкі.**

Аўтар прапаноўвае свае версіі казак паводле вядомых сюжэтаў беларускага фальклору і класічнай літаратуры. Кніга падштурхоўвае чытача пафантазіраваць і прыдумаць уласныя версіі. Выданне разлічанае на дзяцей і на дарослых.

Маляваў малюнкі да кніжкі Міхал Анемпадыстаў (гэта той, які прыдумаў «Народны альбом»).

Кніжка каштуе 24 900 рублёў. Прадаецца ў кнігарні галерэі «Ў» (Мінск, пр. Незалежнасці, 37а) або праз інтэрнэт на сайце knihi.by.

**СМ**



## Памерла Баба Фрося — Ефрасіння Бондарава

**На 89-м годзе жыцця пасля доўгай і цяжкай хваробы пайшла доктар навук, прафесар, кінакрытык і кіназнаўца, заслужаны дзеяч навукі Беларусі Ефрасіння Бондарава. Гэта адбылося 30 чэрвеня.**

Я памятаю гэтую невысокую пажылую жанчыну з цвёрдым позіркам, якую сустрэў упершыню ля ўваходу ў стары будынак Нацыянальнай бібліятэкі. З ёй павіталася мая спадарожніца, выпускніца журфака БДУ.

— Хто гэта?

— Баба Фрося. Бондарава. Ты не ведаеш?

Я не ведаў.

Я не ведаў, што Ефрасіння Леанідаўна была доктарам філалагічных навук, аўтарам некалькіх кніг па гісторыі беларускага кінематографа. Але як толькі я зацікавіўся лёсам Уладзіміра Корш-Сабліна, я распачаў бібліяграфічныя пошукі з яе прац.

Яна і ў кнігах сваіх была такая ж. Жорсткая ў фармулёўках, цвёрдая. Старонка кнігі Бондаравай — як погляд праз акуляры: зрэнкі падаюцца ненатуральна шырокімі, усё нейкае буйнейшае, больш значнае.

Яна пісала пра Корша і Турава так, як пішуць пра сучаснікаў — пра старэйшага і малодшага. Ефрасіння Леанідаўна і была іх сучасніцай.

Цяпер так не пішуць. Пайшоў кінематограф савецкай Беларусі. Пайшло і кіназнаўства савецкай эпохі, класікам якога стала Бондарава.

Мы размаўлялі з ёй некалькі разоў. Ефрасіння Леанідаўна казала — як рэзала, з размаху. У яе не ўзнікала сумневаў ва ўласнай рацыі.



Апошні раз я бачыў яе на журфаку, здаецца, больш за дзесяць гадоў таму. Мама мая, якая нарадзілася на тры гады пазней за Бондараву, ужо пайшла з жыцця. А Бондарава здавалася вечнай.

Цяпер і яна пайшла.

Пісаць пра беларускае кіно будуць іншыя. Тыя, каго яна вучыла.

**Аляксандр Фядута**

## Сціслa

• **Латушка: Толькі 7% бюджэтных сродкаў, укладзеных у праекты «Беларусьфільма», вяртаюцца дзяржаве.** Пра гэта паведаміў міністр культуры пасля прадстаўлення прэсе і работнікам кінастудыі новага дырэктара Алега Сільвановіча. І паставіў задачу ў найбліжэйшы час выйсці хаця б на 30%. Сільвановіч, які раней узначальваў дэпартамент кінематаграфіі Мінкультуры, паабяцаў, што за ім «Беларусьфільм» «не будзе падобны да таго, які ў мінулым быў раскрытыкаваны».

• **Джонатан Рыс-Маерс спрабаваў забіць сябе.** Ён наглытаўся таблетак. Актор трапіў у бальніцу ў Лондане. Хуткую дапамогу выклікалі суседзі, якія знайшлі 33-гадовага актора на падлозе ягонай хаты. Маерс вядомы па фільмах «Аўгуст Раш», «Матч Пойнт», «З Парыжа з любоўю». У маі гэтага года ён праходзіў курс тэрапіі ад алкагольнай залежнасці ў рэабілітацыйнай клініцы.

• **Расійскае журы аддало перамогу беларусам.** Гурт No Comment Band перамог на «Emergenza Festival» у Маскве. Каманда стала пераможцам расійскага адборачнага тура буйнога фэсту «Emergenza». І ў жніўні беларусы пазмагаюцца за лідарства ў міжнародным фінале ў Германіі. Беларусы прэтэндавалі на выхад у фінал разам з дванаццацю расійскімі гуртамі. No Comment Band выконвае музыку ў стылі positive funky rock з англамоўнымі тэкстамі.

• **Музей Івана Луцкевіча ў інтэрнэце.** Музей існаваў ад 1921 да 1945 года ў Вільні. Пасля яго закрыцця большасць збораў трапіла ў розныя фонды Літвы і Беларусі. Аднавіць рэальны музей у адной краіне немагчыма. Віртуальная ж рэканструкцыя магчымая. Першы этап яе — алічбоўванне архіваў, расказаў дырэктар Гістарычнага музея Беларусі Сяргей Вечар.

**СГ**

# «Пісьменнік варты, калі выклікае да сябе варожасць»

Культавы ультраправы аўтар з Барысава Юрый Станкевіч даў інтэрв'ю «НН».

Яго рэдка ўбачыш на літаратурных прэзентацыях, але пра яго шмат гавораць. Адны называюць яго самым чытаным беларускім аўтарам, іншыя ганяць яго творы. Пісьменнік Юрый Станкевіч, аўтар рамана «Любіць ноч — права пацукоў», не хавае сваіх правых поглядаў.

Ён нарадзіўся ў сям'і рэпрэсаванага па сумнавядомым 58-м артыкуле Крымінальнага кодэкса СССР — «Контррэвалюцыйныя злачынствы». «Бацька ў вайну трапіў у палон. Збег. Быў сябрам Беларускай самапомачы, Беларускай незалежніцкай партыі. Выспавядаў Беларусь без немцаў і без бальшавікоў.

Асуджаны за «ізмену родіне» і скіраваны ў Карлаг [Карагандзінскі папраўча-працоўны лагер] у 1946 годзе. Бацьку фактычна і не бачыў. Бо што можа запомніць аднагадовае дзіця...

Вучыўся Станкевіч у расійскамоўнай школе. Роднай мовай жа авалодаў сам.

Лета ён бавіў у вёсцы, дзе тады яшчэ размаўлялі выключна пабеларуску. Але больш у гэтым плане ўзяў, як сам адзначае, з прачытаных кніжак.

Ужо ў 15 гадоў Юрый пайшоў працаваць. Падлеткам пачаў спасцігаць прафесіі цесляра, бляхара, наладчыка піяніна...

Меў абсалютны слых, хаця так ніколі і не пайшоў у музычную школу — ніхто і не прапаноўваў. Паралельна атрымліваў сярэднюю адукацыю ў вячэрняй школе. Тады і першы апавед апублікаваў у раённай газеце. Пасля былі вялікі перапынак. «Каб прабіцца ў літаратуру, трэба было пісаць на нейкай мяжы паміж рэальнасцю і іхняй ідэалогіяй... А хто б выдаў? І як? На спробы нешта надрукаваць адказвалі звычайна: «мала грамадзянскасці», «ачарненне нашай рэчаіснасці» і г.д.»

Для асноўнай прафесіі абраў блізкую да літаратуры журналістыку — скончыў журфак Белдзяржуніверсітэта. Сам пісьменнік кажа, што «гэта, пэўна, яна мяне абрала». І заўважае, што ў сына рэпрэсаванага было не так і шмат магчымасцяў. Ды і не любіў ён ні матэматыкі, ні хіміі яшчэ са школьнай парты.

### Аднакурснік Сярэдзіча і калега Някляева

Станкевіч вучыўся ва ўніверсітэце з будучым рэдактарам «Народнай волі» Іосіфам Сярэдзічам, якога запомніў як занадта дысцыплінаванага студэнта. У прафесіі ж пасля іх шляхі не перакрыжоўваліся: Сярэдзіч пайшоў у «Сельскую газету», Станкевіч — у барысаўскую гарадскую газету.

Працаваў пісьменнік і з паэтам Уладзімірам Някляевым. Тады той яшчэ ніякіх прэзідэнцкіх амбіцый не меў. Някляеўскую «Крыніцу» сп. Юрый і сёння лічыць паспяховым часопісам. Пасля «Маладосці» Генрыха Далідовіча ў «Крыніцы» ўсё было па-іншаму: вальней у творчым сэнсе.

Станкевіч — аўтар некалькіх кінасцэнароў, так і не ўвасобленых у жыццё. Кажа, што айчынныя рэжысёры гатовыя зняць фільм па яго творах. Але заўсёды ёсць шэраг перашкодаў. Ён не церпіць размоў пра тое, што ў краіне няма годных сцэнарыстаў. І не разумее, навошта Андрэй Кудзіненка звярнуўся да навелы Праспера Мэрымэ ў сваім фільме «Масакра».

Любімы ж рэжысёр самога Станкевіча — японец Курасава, чыё кіно ён лічыць і масавым, і інтэлектуальным.

Сп. Юрый чытае часопіс «Іностранная література», кнігі расійскіх пісьменнікаў. А сярод вартых беларускіх аўтараў адзначае Наталку Бабіну і Алену Брава, высока ацэньвае аўтабіяграфічны раман Славаміра Адамовіча «Цана Еўропы, альбо Гісторыі Вільмана». Хай сабе іх кнігі і выдаюца малымі накладамі, але ж чытач ёсць. «І я выдаюся невялікім накладам. Але і ў мяне свой чытач ёсць. З многімі я лістуюся». Але павялічваць кніжныя наклады за кошт выдання твораў па-расійску (для масавасці) не лічыць патрэбным, як і пачынаць пісаць парасійску ўвогуле. «Не варта. Да дабра гэта не давядзе. І так усё зрусіфікавана».

Станкевіч піша і пра НЛА. Сам у іншапланетнікаў не верыць. І заўважае, што «гэта нешта больш глыбокае і больш страшнае. Магчыма, нейкія маніпуляцыі са свядомасцю людзей адбываюцца. Існуе маса ўсялякіх тэорый. Ад гэтага нельга адмахнуцца так проста... А ў мяне гэта быў навукова-прыгодніцкі твор для падлеткаў».



**Юрый Станкевіч**

Сапр. Георгій Харытановіч. Нар. у 1945 у Барысаве. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у барысаўскай аб'яднанай газеце «Камуністычная праца», часопісах «Маладосць» і «Крыніца». Сябра незалежнага Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг «Любіць ноч — права пацукоў», «Апладненне ёлупа», «Мільярд удараў», «П'яўка» ды іншых. Жыве ў Барысаве.

### Выраджэнне гісторыі

Калі выйшаў раман Юрыя Станкевіча «Любіць ноч — права пацукоў», на аўтара пасыпаліся абвінавачванні ў расізме. Але менавіта гэты твор узняў пісьменніка на хвалю папулярнасці. Выкладчыкі і сёння рэкамендуюць кнігу для чытання студэнтам ва ўніверсітэтах.

«Раман «Любіць ноч — права пацукоў» — гэта адно. Пройдзены этап. Магу толькі дадаць, што падзеі, апісаныя ў ім, спраўджваюцца амаль з клінічнай паслядоўнасцю. Але каб гэта бачыць — трэба жыць у правінцыі».

На пісьменніка часта навешваюць розныя «ізмы», абвінавачваюць у гамафобіі, расізме, фашызме. «Абвінавацьці ў фашызме — гэта прыхаваная і дурнаватая спроба ўкусіць, і як мага зласлівей. Гэтага не пазбеглі і не пазбягаюць цяпер і такія знаныя творцы, як Луі-Фердынад Селін, Эзра Паўнд, Сальвадор Далі, Кнут Гамсун, Джон Кутзее, Мішэль Уэльбэк. І Дастаеўскага (чые творы паважаў Ніцшэ), калі б ён жыў цяпер, абвілі б таксама правым радыкалам, нават фашыстам. Хіба не вывеў ён у сваіх раманах персанажаў, блізкіх да паняцця «звышчалавек»? Свідрыгайлаў, Стаўрогін, Кірылаў...»

Якія ідэі аўтар прапагандуе насамрэч у сваіх творах?

«Я прапагандую толькі нацыянальную ідэю. А без яе нам гамон. Дзе ж тут загана? Каму ахвота пачуваць сябе эмігрантам на сваёй зямлі? А ідзе да таго.

Я не хварэю на лішнюю надумлівасць, але мне ўсё часцей падаецца, што нашым суседзям выгаднае ўтварэнне ў Еўропе своеасаблівага «этнічнага гноеадстойніка». Мігрантам патрэбныя нашы цывілізацыйныя набыткі і не трэба ні наша мова, ні культура. Часам плавае ў паветры чыста вар'яцкая ідэя: ціха аддзяліцца адным-двума мільёнамі і жыць так, як нам хочацца. Утварыць сапраўдную ліцвінскую дзяржаву. Яўрэі здолелі ж у 1948 годзе пабудаваць сваю дзяржаву».

Сам пісьменнік ўпэўнены, што «грамадства павіннае быць здаровым». «А грамадству кідаюць усё больш і больш цынічныя выклікі ў тым ліку і псіхічна хворыя асобы, якіх асудзілі тысячагоддзямі раней усе сусветныя рэлігіі.

Садаміты маглі б «дзейнічаць» ціпіком «пад коўдрамі», а яны масава ломяцца на гей-парады і г.д. Сярод іх шмат багатых і ўплывовых. Аднаполыя шлюбы, прыхільнае азнаямленне з гомасэксуалізмам у школах некаторых краін, вычварэнцы-дураплясы на сцэнах — гэта страта герайчнага пачатку, выраджэнне, канец гісторыі».

...У канцы мінулага года выйшла новая кніга Станкевіча — «П'яўка». Рэакцыя на яе была рознай: ад усхвалення аўтара да закідаў, што кніга не вартая чытання. Сам аўтар адзначае, што «я не пакутую на завышаную самаацэнку і не перабольшваю свае вартасці. Часам добра бачу недахопы». Але кажа, што мала хто зразумеў, што ён хацеў сказаць у «П'яўцы». І дадае: «Удумлівую крытыку ўспрымаю адэкватна. А істэрычны віск, які часам у некаторых асобаў прарываецца, мяне не кранае. Гэта зайздроснікі альбо прыстасаванцы і нядобразычліўцы. Лягчэй за ўсё аб'явіць літаратара «самым цынічным і небяспечным аўтарам» (газета «Таварыш»), чарнушнікам і расістам (часопіс «ARCHE»), выліць вядро літпамыяў (як крытык Лада Алейнік) ці з'ехаць за мяжу па гранце, пісаць пустую гульню слоў, адгадваўшы бародку пад Калініна, і віскнуць з укормленай цішыні і дабрабыту: «Раман напісаны пазаўчарашнім чалавекам пра паслязаўтра».

### «Апладненне ёлупа»

«Настаўніцкая газета» ў 2005 выдала яго кнігу «Апладненне ёлупа». Але выданне не трапіла ў кнігарні і да сёння. Пісьменнік звязваў гэта з тым, што на вокладцы напісана, што аўтар карыстаецца папулярнасцю ў моладзі правага кірунку. Вось гэтая несумяшчальнасць дзяржвыдання і «правы кірунак». Насамрэч усё значна прасцей, як заўважае аўтар.

«Кнігу «Апладненне ёлупа» можна набыць у бухгалтэрыі «Настаўніцкай газеты» і цяпер. Яе проста ляную́цца скіраваць у продаж праз кнігарні.

Існуе небяспека, што могуць увесь наклад здаць у макулатуру. Выдавец, былы рэдактар газеты, які займаўся яе распаўсюдам, больш у рэдакцыі не працуе. А новы рэдактар прапануе мне купіць наклад (каля 2000 асобнікаў) без права продажу. І гэта пасля майго звароту да міністра адукацыі. Здзек. Я не настолькі заможны, каб знайсці ў сябе 20 млн рублёў. А потым куды падзець наклад? І чаму я не магу прадаць, калі б захацеў, сваю кнігу, набытую за свае грошы? Абсурд...»

У выдавецтва «Галіяфы» Станкевіч здаў новы рукапіс. Гэта будзе кніга з умоўнай назвай «Шал». У яе ўвайшлі аднайменная аповесць, «пабудаваная на «недасказах»: урыўках думак, вобразаў», дзве вострасюжэтныя аповесці (адна з якіх пра нацыянальны рух у час нямецка-савецкай вайны), некалькі апавяданняў і эсэ пра Акіру Курасаву.

### Заўзятар БАТЭ

Пісьменнік жыве ў Барысаве. З Мінска ён пераехаў у родны горад, каб даглядаць старэнькую маці. І кажа, што яго яшчэ чакае вяртанне ў сталіцу. Як і многія барысаўцы, сочыць за футбольнай камандай БАТЭ.

«У БАТЭ шмат сваіх хлапцоў. Беларусаў. Шкада толькі, што клубныя лагатыпы, абрэвіятуры зрусіфікаваныя. Кіраўніцтву клуба, пэўна, не хапае нацыянальнай самасвядомасці...».

У родным Барысаве пісьменніка «не чествуют». Яго імя выкраслілі з гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Барысаўскага раёна. Сп. Юрый кажа, што гэта была помста за яго кнігу сатырычных аповесцей пра родны горад «Сатырыкон» (з малюнкамі Алеся Пушкіна). Па яго словах, чыноўнікі пазналі сябе ў некаторых героях. І не змаглі дараваць.

«Нават у мясцовай газеце, дзе калісьці адпрацаваў шмат гадоў, мяне не надрукуюць. Былая беларускамоўная, цяпер газета перайшла выключна на расійскую мову. На сустрэчы мяне не запрашаюць, дый не аматар я публічных выступаў. Сацыяфобія, пэўна».

А ў канцы дадае: «Пісьменнік толькі тады нечага варты, калі выклікае да сябе пэўную варожасць».

**Сяргей Макарэвіч**

# На «Беларуськаліі» ліквідавалі небяспечную аварыю

24 чэрвеня ў інтэрнэце з'явілася інфармацыя пра тое, што ў другім рудаўпраўленні «Беларуськалія» адбылася аварыя — прарыў вады ў шахту. Маштабы здарэння разрасталіся ў інтэрнэт-апісаннях — з'явіліся звесткі, што праца на трэцім гарызонце ў 2-м рудупраўленні цалкам можа быць спыненая. Спрыяла пашырэнню чутак і тое, што кіраўніцтва «Беларуськалія» амаль тыдзень устрымлівалася ад каментароў з нагоды аварыі.

Адзіным афіцыйным пацверджаннем быў камэнтар МНС, дзе заявілі, што затапленне мае месца, але ахвяраў няма і шахцёры даюць яму рады сваімі сіламі.

З інтэрнэту ж стала вядома, што «прарыў адбыўся ў раёне Крывічоў, за 12 км ад ствала шахты, камбайн паспелі адагнаць».

Першае афіцыйнае паведамленне пра аварыю з'явілася 30 чэрвеня. З яго вынікае, што «24 чэрвеня 2011 года ў 2.45 на рудніку 2-га рудаўпраўлення падчас горных работ па праходцы разведачнай выпрацоўкі Паўднёва-заходняга напрамку гарызонт-445м выкрытыя брэкчыраваныя пароды ў глебе выпрацоўкі, у выніку чаго пачалося выдзяленне расолаў у выпрацоўку. Дэбіт складае 35-40 м3/гадз».

Шахцёры паставілі гідраізаляцыйную перамычку, прыпынкаў вытворчасці не было. З часам прыток расолаў натуральным чынам знізіўся да 26-30 м3/гадз., адзначаецца ў паведамленні.

«Беларуськалій» — гэта адно з бюджэтаўтваральных прадпрыемстваў краіны. Дзейнічаюць 4 рудаўпраўленні, дзе працуюць каля 20 тысяч чалавек. Гэта адзін з найбуйнейшых у свеце вытворцаў калійных мінеральных угнаенняў. Цікава, што аварыя адбылася якраз у перыяд, калі актыўна вядзецца гаворка аб прыватызацыі прадпрыемства.

**СМ, СП; БелаПАН**



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Аташэ пасольства Італіі затрыманы ў Мінску за рулём «Аўдзі Q7»



Як паведамляе ГУУС Мінгарвыканкама, аташэ пасольства Рэспублікі Італія ў Беларусі Маўрыцыа Крачатэлі затрыманы супрацоўнікамі ДАІ за кіраванне аўтамабілем у стане ап'янення. 2 ліпеня ўвагу супрацоўнікаў ДАІ прыцягнула прэстыжная машына «Аўдзі Q7», кіроўца якой відавочна знаходзіўся пад уздзеяннем алкаголю або наркатыкаў. На машыне былі дыпламатычныя нумары.

Прыблізна ў 6.30 раніцы на праспекце Машэрава кіроўца дыпламатычнага аўтамабіля быў затрыманы. Пры першым жа кантакце з кіроўцам падазрэнні адносна яго стану пацвердзіліся. Супрацоўнікі ДАІ праверылі дакументы затрыманага. Ім быў аташэ пасольства Рэспублікі Італія ў Рэспубліцы Беларусь Маўрыцыа Крачатэлі. Ён, карыстаючыся дыпламатычнай недатыкальнасцю, не толькі адмовіўся ад медыцынскага агляду, на што меў поўнае права, але нават не стаў паказваць сваё пасведчанне кіроўцы.

Інспектары склалі на дыпламата пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 18.16 КаАП (кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення або ў стане, выкліканым ужываннем наркатычных сродкаў). Інфармацыя пра паводзіны дыпламата перададзеная ў МУС і пасольства Італіі ў Мінску, паведамляе ej.by.

Цікава, што нядаўна да дэталяў падобны скандал адбыўся з трэнерам хакейнага клуба «Юнацтва» Міхаілам Захаравым. Яго навюткі Bentley Continental GT коштам 200 тысяч даляраў урэзаўся ў Lexus LX570. Пасля сутыкнення Bentley загарэўся, і гасіць яго прымчалі ратавальнікі. Тое, што Захараў быў за рулём нецвярозы, прызнаў нават кіраўнік дзяржавы ў часе прэс-канферэнцыі. Трэнера пазбавілі правоў на тры гады і далі максімальны штраф. Цяпер ён ездзіць з кіроўцам.

**Сяргей Мікулевіч**

# У Мінску накрылі падпольнае казіно

Супрацоўнікі ўпраўлення дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю (КДК) выявілі нелегальнае казіно ў адным з забаўляльных цэнтраў сталіцы.

Гульнявую залу ў цэнтры Мінска арандавала грамадская арганізацыя, створаная ў верасні 2010 года, паведамляе БелаПАН. Яна дэкларавала сваёй мэтай «папулярызацыю гульні ў покер, а таксама выяўленне патэнцыйна моцных гульцоў і іх удзел у міжнародных турнірах». Але на справе ад снежня 2010 года шэсць дзён на тыдзень ад 22-й да 6-й раніцы ў арандаванай зале можна было гуляць на грошы.

У зале працавала чатыры сталы для гульні ў покер. Кліенты маглі абмяняць грошы на фішкі, а затым ажыццявіць зваротны абмен. Штодня ў гульні на грошы ўдзельнічала ад 20 да 40 чалавек.

Паводле інфармацыі КДК, арганізатарам казіно быў кіраўнік той покернай грамадскай арганізацыі. Ён атрымліваў 5% ад сумы выйгрышу гульцоў. Паводле папярэдніх звестак, незаконны прыбытак 30-гадовага мужчыны склаў 84 млн рублёў «старымі». Не выключана, што падчас следства адкрыюцца і новыя факты.

У дачыненні да яго распачатая справа па ч. 1 арт. 233 КК (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць). Следчыя таксама спрабуюць выявіць яго саўдзельнікаў.

У Беларусі, у адрозненне ад Расіі, казіно не забароненыя. Грэх аматараў покеру быў у тым, што не плацілі падаткаў дзяржаве.

**СМ**



# Шалёны воўк пакусаў пяць пенсіянераў

Пяць 60--70-гадовых жыхароў вёскі Двор-Савічы Брагінскага раёна пакусаў шалёны воўк. Інцыдэнт адбыўся раніцай, паведамляе БелаПАН. Каля 7.00 воўк напаў на аднаго з пенсіянераў, які знаходзіўся ля сваёй хаты. У мужчыны зафіксаваны дзве павярхоўныя раны цела. Пасля воўк кінуўся да суседняга двара, дзе пакусаў яшчэ аднаго пенсіянера, сур'ёзна траўмаваўшы яму твар. Яго жонка, якая працавала ў гародзе, таксама стала ахвярай драпежніка. Жанчына ледзь адбілася ад ваўка, які зваліў яе з ног. Агулам хворы звер траўмаваў чатырох мужчын і адну жанчыну. Акрамя таго ён пакусаў пяць сабак.

Пацярпелыя аператыўна атрымалі дапамогу медыкаў. Пакусы былі апрацаваныя ў першыя паўгадзіны пасля здарэння, пачатая вакцынацыя. Своечасова былі прынятыя меры па адлове драпежніка і правядзенні неабходных лабараторных даследаванняў. У вёсцы вакцынаваныя ўсе каты і сабакі. Праведзеная дэзінфекцыя месцаў нападу на людзей.

Такі выпадак на Брагіншчыне сёлета зарэгістраваны ўпершыню. Затое напады шалёных драпежнікаў часцяком здараюцца ў суседніх чарнобыльскіх рэгіёнах, дзе ад бязлюддзя распладзілася звяр'ё.

Калі ўкусіў дзікі звер або хатні гадаванец, трэба неадкладна прамыць рану цёплай вадой з мылам. Мыла лепш выкарыстоўваць гаспадарчае, у ім больш шчолаку, а вірус шаленства інактывуецца шчолакамі.

Таксама прадухіліць захворванне на шаленства можна выклікаўшы крывацёк з раны. Вірус, які трапіў у кроў, вымываецца крывёю. Калі ёсць падозранне, што жывёла, якая вас укусіла, шалёная, надрэжце рану нажом або лязом і выцісніце з яе як мага больш крыві.



Але найперш варта звярнуцца да медыкаў. Нават калі ўкусіў уласны сабака ці кот, але вы не пэўныя, што прышчэпка ад шаленства яму зробленая своечасова.

**СМ**

## Сціпла

• **Кантрабандыстка спрабавала на сабе правезці 95 майткоў,** купальнікаў, маек і станікаў. 37-гадовая кантрабандыстка была затрыманая на беларуска-ўкраінскай мяжы ў пункце пропуску «Макраны». Схаваны тавар спрабавала правезці праз мяжу пасажырка «Мерсэдэса». На жанчыне было каля 50 жаночых майткоў, 20 купальных касцюмаў, 10 мужчынскіх маек і 15 бюстгальтараў. Споднее на суму больш за 3 млн рублёў канфіскавана супрацоўнікамі мытні.

• **З Асіповіцкай турмы ўцяклі вязні.** Здарэнне адбылося ў 6 гадзін раніцы 27 чэрвеня. Як паведамляе магілёўская абласная міліцыя, вязні ўцяклі з ізалятара часовага ўтрымання. Уцекачамі былі 33-гадовы Дзмітрый Шаржановіч і 24-гадовы Анатоль Гарадзецкі. Іх раней ужо судзілі за крадзяжы. Цяпер уцекачы абвешчаныя ў вышук.

• **На Гомельшчыне працягваюцца падпалы сена.** У Рэчыцкім раёне - меркавана, праз падпал — гарэў сенасклад у агракамбінаце «Холмеч». Полымя знішчыла 150 тон сена. 19 чэрвеня адбыўся пажар на сенаскладзе ў вёсцы Храпкаў Хойніцкага раёна. Знішчана прыкладна 100 тон сена. У вёсцы Муляраўка Петрыкаўскага раёна ў той самы дзень згарэла 50 т сена.

**Віхор пашкодзіў 45 пабудоў у Баранавіцкім раёне.** 29 чэрвеня ў часе навальніцы ад ветру хуткасцю да 14 м/с пацярпела вёска Вялікая Валохва. Вецер паздзіраў шыферныя дахі, паваленымі дрэвамі былі пашкоджаныя два аўто. Чалавечых ахвяр няма.

• **У Добрушскім раёне ў ДТЗ загінуў салдат.** ДТЗ адбылося ў вёсцы Усохі Добрушскага раёна. Ваеннаслужачы, кіруючы службовай аўтамашынай «УАЗ», выехаў за межы праезнай часткі, аўтамабіль ударыўся ў калодзеж і перакуліўся. У выніку пасажыр, таксама ваеннаслужачы, атрымаў траўмы, быў змешчаны ў бальніцу, дзе пазней памёр. І кіроўца, і пасажыр — 1991 года нараджэння.

• **У Браслаўскім раёне патанулі тры дзяўчынкі.** Тры дзяўчынкі загінулі ў Друі Браслаўскага раёна. Як паведамілі ў праваахоўных органах, з прыкметамі патаплення яны былі знойдзеныя вечарам 28 чэрвеня ў мясцовай сажалцы. Загінулыя — 2003, 2005 і 2008 гадоў нараджэння. Абставіны і прычыны смерці дзяцей высвятляюцца.

• **Налётчык прыкінуўся вар'ятам.** Позна вечарам у Маладзечне затрымалі навучэнца прафесійнага тэхнічнага каледжа, які залез у магазін са службовага ўваходу. Спрацавала сігналізацыя. Украсці хлопец нічога не паспеў. Убачыўшы супрацоўнікаў міліцыі, зламыснік пачаў сімуляваць прыступ псіхічнага захворвання — стаў ламаць у магазіне абсталяванне. Выклікалі дактароў псіхдыспансера. Медыкі канстатавалі: сімуляцыя.

**Пасля бойкі на дыскатэцы памёр студэнт з Турцыі.** Студэнт Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Скарыны, грамадзянін Турцыі 1985 года нараджэння, памёр 25 чэрвеня. Бойка адбылася на дыскатэцы ў гомельскім забаўляльным цэнтры «Еўропа». Турак пасварыўся праз дзяўчыну з грамадзянінам Беларусі. Маладыя людзі выйшлі на вуліцу, дзе, паводле папярэдняй інфармацыі, беларус штурхануў турка. Апошні ўпаў і ўдарыўся галавой. Іншаземец быў шпіталізаваны і амаль два тыдні правёў у бальніцы непрытомны. Вырашаецца пытанне аб распачынанні справы на падставе забойства па неасцярожнасці.

**СМ**

## ФУТБОЛ

### «Мінск» — «Алімпік»

**7 ліпеня (чацвер) на стадыёне «Дынама»** пройдзе першы кваліфікацыйны раунд футбольнай Лігі Еўропы. Сустрэнуцца ФК «Мінск» і «Алімпік» (Баку). Першы іх матч скончыўся ўнічыю — 1:1. Пачатак а 20-й. Квіток —10 000 рублёў.

## КАНЦЭРТЫ

### N.R.M. грае акустыку на «Жывым Тузіне»

**8 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт «Тузін. Unplugged». Бяруць удзел: N.R.M., «Мутнаевока». Пачатак а 19-й.

### Akana NHS і Джамбібум

**11 ліпеня ў «Графіці»** выступаюць этна-гурты Akana NHS і Джамбібум. Пачатак а 19-й.

### «Кальян» у Мінску

**8 ліпеня ў мінскім Jolly Roger Cafe (Талбухіна, 4)** пройдзе канцэрт гродзенскага гурта «Кальян». Апроч яго зайграюць іншыя прадстаўнікі панкаўскай і каляпанкаўскай плыні — Gentle Bombandiers (меладычны панк 70-х), Alioscha, give me a chance, «Солнце и цветы», а таксама Лёха Чыканас (калягаражнае этна). Даведкі: (29) 556-22-86. Цана квітка — 20 тысяч рублёў.

### PANaNieba. Сольны канцэрт

**15 ліпеня ў «Графіці» пройдзе канцэрт гурта PANaNieba.** Пачатак а 20-й. Квіткі можна набыць у клубе або проста замовіць па тэлефоне (029) 638-44-44, (033) 638-44-44 (цана: першыя 30 шт. — 15 000 р., астатнія — 20 000 р.). Таксама найбліжэйшым часам квіткі з'явяцца амаль ва ўсіх касах горада (цана — 25 000 р.).

### Rock-n-Roll & Retro

7 ліпеня ў «Графіці». Грае гурт The Apples. Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Дыскусія пра абарону мовы

**12 ліпеня на мінскай сядзібе Таварыства беларускай мовы (Румянцава, 13)** адбудзецца тэматычная сустрэча на тэму «Абарона беларускай мовы на дзяржаўным узроўні». Пачатак а 18-й. Уваход вольны.

### Беларускія танцы

**Штачацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарыны. Вучаць ойру, падэспан, полькі і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

## ВЫСТАВЫ

### Belarus Press Photo—2011

**У Галерэі TUT.BY (Харужай, 1а)** адкрыецца выстава найлепшых рэпартажных фатаграфій, складзеная паводле вынікаў конкурсу Belarus Press Photo—2011. Прадстаўленыя будуць працы пераможцаў і намінантаў. Конкурс прафесійных фотакарэспандэнтаў праводзіцца ў нашай краіне другі раз па ініцыятыве «Прэс-фота Беларусі» і беларускага фотапартала «Znyata». У 2011 годзе ў Belarus Press Photo ўдзельнічала каля 2000 здымкаў больш за 70 аўтараў.

### Aeternus et momentum

**Да 22 ліпеня ў Галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** — рэтраспектыва работ street-art-мастака Андрэя Бусла. Ён пераасэнсоўвае ў тэхніцы street-art сусветныя шэдэўры мастакоў Рэнесансу.

### Viatoris глядзіць на зоркі

Выставы жывапісу Пятра Яргуша (Кракаў) «Viatoris глядзіць на зоркі» працуюць у галерэі TUT.BY (Харужай, 1а, 6 паверх) і ў гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе» (г.Заслаўе, вул. Рыначная, 4). Viatoris у перакладзе з лацінскай мовы азначае «падарожнік».

### Ротмістр Вітольд Пілецкі

**Да 24 ліпеня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе дакументальная выстава «Ротмістр Вітольд Пілецкі. 1901 —1948». Яе зладзіў Польскі інстытут у Мінску ў гонар нацыянальнага героя — арганізатара польскага падполля ў Асвенцыме і ўдзельніка Варшаўскага паўстання, расстралянага саветамі пасля вайны.

### Арт-лінія

**Да 17 ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава графічных работ студэнтаў Акадэміі мастацтваў у рамках IV Мінскай міжнароднай выставы графікі «Арт-лінія».

### «Італія, бацькаўшчына натхнення…»

**З 2 чэрвеня да 4 верасня 2011 у Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава рускага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю выставы ўвайшлі творы Фёдара Матвеева, Сільвестра Шчадрына, Грыгорыя Чарняцова, Івана Айвазоўскага, СакратаВараб'ёва, Пімена Арлова, Івана Рэймерса, Аляксандра Папова, Фёдара Броннікава, Арэста Цімашэўскага, Мікалая Ге.

## ТЭАТРЫ

**6 ліпеня**

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
Кінаактора — «Механічны чалавек»
**Музычны** — «Лятучая мыш»
**Горкага** — «Эсфір»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

**7 ліпеня**

**Музычны** — «Шахеразада», «Гішпанскія мініяцюры»
**Горкага** — «Ніначка»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Кінаактора** — «Пігмаліён»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»

**8 ліпеня**

**Горкага** — «Утаймаванне наравістай»
**Кінаактора** — «Пігмаліён»

**9 ліпеня**

**Горкага** — «Злоўленыя сеткай»
**Кінаактора** — «Рабаванне апоўначы»

**10 ліпеня**

**Музычны** — «Вясёлая ўдава»
**Горкага** — «Праўда — добра, а шчасце — лепш»
**Кінаактора** — «Рабаванне апоўначы»

**11 ліпеня**

**Музычны** — «Блакітная камея»
**Кінаактора** — «Поле бітвы»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

**12 ліпеня**

**Музычны** — «Аршын Мал Алан»
**Горкага** — «Ідэальны муж»
**Кінаактора** — «Вельмі простая гісторыя»

**13 ліпеня**

**Музычны** — «Бабскі бунт»
**Горкага** — «Адзіны спадкаемца»
**Кінаактора** — «Вельмі простая гісторыя»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»

**14 ліпеня**

**Музычны** — «Кармэн-сюіта», дывертысмент з балета «Шчаўкунок»
**Моладзевы** — «Згуляем у дружную сям'ю»
**Горкага** — «Уяўны хворы»
**Кінаактора** — «Як выходзяць у людзі, альбо Кожнаму мудрацу хапае прастаты»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

**15 ліпеня**

**Горкага** — «Распуснік»
**Кінаактора** — «Як выходзяць у людзі, альбо Кожнаму мудрацу хапае прастаты»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

**16 ліпеня**

**Горкага** — «Свабодны шлюб»
**Кінаактора** — «№13»

**17 ліпеня**

**Музычны** — «Аднойчы ў Чыкага»
**Кінаактора** — «№13»





Сяргей Гудзілін

## КІНО

# Супер 8

**Super 8**
ЗША, 2011, каляровы, 112 хв.
**Рэжысёр:** Джэй Джэй Абрамс
**Жанр:** Фантастыка
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Летам 1979 года дзеці, якія здымалі аматарскі фільм, сталі сведкамі аварыі на чыгуначнай станцыі. Неўзабаве ў мястэчку пачалі адбывацца дзіўныя і страшныя падзеі. Героі спрабуюць разгадаць таямніцу…

Карціна Джэй Джэй Абрамса, як і вампірская стужка «Упусці мяне», вяртае нас у 1980-я. Але калі ў вупырскай карціне атмасфера рэйганаўскай эпохі дакладна пасавала да падлеткавых жахаў, дык «Супер 8» яўна заблукала ў часе. Фільм, спрадусаваны Стывенам Спілбергам, які ў 50-я, падлеткам, сам здымаў фільмы, — пра часы таннай кінафантастыкі. Але паваенныя страхі недарэчна разыграныя ў чужых дэкарацыях.

Як вынік — фільм выглядае штучным і стэрыльным, нягледзячы на хвацкіх юных актораў.

**Андрэй Расінскі**



# Як перайсці на лічбавае тэлебачанне?

**У чым перавагі карцінкі новага пакалення.**

Ужо праз тры гады аналагавае тэлебачанне, якім карыстаецца большасць насельніцтва краіны, сыдзе ў нябыт. Яго месца канчаткова зойме лічбавае ТВ, якое ўжо можа ўключыць 94% насельніцтва краіны. Можа — але пакуль што не ўключае. «Наша Ніва» раіць, як карыстацца найноўшымі тэхналогіямі ўжо цяпер.

### Дома — як у кіно

Лічбавае тэлебачанне — чарговая прыступка развіцця эфіру, да якой Беларусь дайшла пасля пераходу да каляровай выявы. Галоўная перавага навінкі — высокая якасць выявы і гучання. Лічбавае тэлебачанне дае магчымасць перадаваць карцінку высокага пашырэння (HDTV) са шматканальным гукавым суправаджэннем (як у кінатэатры). Іншае пытанне, што на старэнькіх «Гарызонтах» лічбавую «Панараму» наўрад ці адрозніш ад аналагавай. Тое ж тычыцца і замежных тэлевізараў з малым памерам экрана.

Яшчэ адзін істотны плюс у тым, што на лічбавым тэлебачанні амаль не ўзнікаюць перашкоды. Там, дзе звычайнае тэлебачанне ловіцца дрэнна, лічбавы сігнал тэлевізар прыме ў выдатнай якасці. Трывалы прыём магчымы нават на ніжніх паверхах будынкаў, бо простая бачнасць вышкі-перадатчыка не патрабуецца.

### Антыцэнзура

Нарэшце, лічбавае тэлебачанне ўсё яшчэ паказвае некаторыя тэлеканалы, якія пагледзець у Беларусі амаль нерэальна.

Гаворка перадусім пра расійскі забаўляльны ТНТ, вяшчанне якога прыпыніла большасць аператараў. Напрыклад, з 1 ліпеня ад тэлеканала адключылі Гродна, некалькі тыдняў раней — Наваполацк, Барысаў і іншыя гарады. Вядома ж, ніхто не гарантуе, што цэнзура не выкіне пэўныя каналы і з лічбавых пакетаў.

А вось чакаць у эфіры беларускі незалежны тэлеканал «Белсат» не варта — пакет каналаў мала адрозніваецца ад таго, што прапануюць аператары гледачам аналагавага тэлебачання, дадаюцца хіба што спецыяльныя каналы павышанай якасці. А вось для таго, каб глядзець той самы «Белсат», усё адно трэба падключацца да спадарожніка.

У блізкай перспектыве — запуск 3D-перадач з аб'ёмнай карцінкай, для прагляду якіх спатрэбяцца спецыяльныя акуляры. Такі канал працуе ў тэставым рэжыме ў карыстальнікаў паслугі «Зала» ад «Белтэлекаму».

**Мапа ахопу тэрыторыі Беларусі лічбавым вяшчаннем (на 04.04.2011).**



### Набор лічбавага гледача

Каб глядзець лічбавае тэлебачанне, трэба спецыяльная тэхніка. Па-першае, прыстаўка Set-top-Box. Яна каштуе каля $50, але большасць аператараў дае яе ў бясплатную арэнду. Па-другое, каб глядзець каналы з карцінкай высокага пашырэння, трэба мець тэлевізар, які падтрымлівае такую магчымасць. Зрэшты, можна абысціся і без гэтых тэлеканалаў.

Даваць парады наконт выбару апарата складана — у кожным горадзе працуюць розныя кампаніі з рознымі тарыфамі і пакетамі каналаў. Што да агульнанацыянальнай «Залы», ужо згаданай вышэй, то штомесячная абаненцкая плата складае 15 200 — 50 000 рублёў. За гэтыя грошы можна глядзець 40--50 каналаў, а таксама спяваць караоке. За дадатковую аплату — замаўляць кінанавінкі і «запісваць» тэлеперадачы, каб паглядзець іх у зручны час.

**Яўген Васількоў**

## Вязню ГУЛАГу Аляксандру Доўбіку споўнілася 90



Аляксандру Доўбіку споўнілася 90. Былы настаўнік, вязень ГУЛАГу. Трапіў у лагер за лісты да сусветных лідараў. У 90-я гады далучыўся да адраджэнскага руху. Цяпер жыве ў доме састарэлых у Карэліцкім раёне. Але не спыняе грамадскай дзейнасці: піша чыноўнікам, выпісвае незалежную прэсу, у тым ліку «НН». Год таму ўзняў пытанне кампенсацыі ахвярам сталінскіх рэпрэсій.

«Наша Ніва» далучаецца да віншаванняў і жадае Аляксандру Сафронавічу здароўя і бадзёрасці духу.



ЗДАРОЎЕ

# Ад парнаграфіі мужчыны дурэюць. Але і патэнцыя зніжаецца

Маем шматлікія прыклады, калі мужчыны давялі сябе да самаразбурэння сэксуальнымі паводзінамі. Строс-Кан тут толькі самы свежы прыклад.

Многія ўплывовыя людзі ўжо даўно не могуць спатоліць сэксуальную прагу. Раней яны былі нашмат больш абачлівыя і добра ўмелі «замятаць сляды».

Адной з прычынаў адкрытасці прыватных паводзінаў сёння з'яўляецца развіццё тэхналогій. Шмат хто з мужчын, уцягнутых у сэкс-скандалы, выкрыў сябе сам праз сваю прагу да смс, Твітара і іншых «нясціплых» СМІ.

Пашырэнне спажывання парнаграфіі ў апошнія гады перабудавала мужчынскі мозг, уплываючы на стаўленне мужчын да сэксу і іх кантроль над сваімі імпульсамі. Існуюць навуковыя доказы гэтай гіпотэзы. Шэсць гадоў таму было праведзенае даследаванне, падчас якога была выяўленая сувязь паміж ростам спажывання парнаграфіі сярод маладых мужчын і пашырэннем сярод іх імпатэнцыі і заўчаснай эякуляцыі.

Гэта былі здаровыя маладыя людзі без арганічных або псіхічных паталогій, якія маглі б прывесці да парушэнняў полавай функцыі.

Даследчыкі выявілі, што ў хуткім часе пасля пачатку спажывання жорсткага порна мужчыну патрабуецца больш высокі ўзровень стымуляцыі, каб дасягнуць таго ж узроўню ўзбуджэння. Порна пасылае ў мужчынскі мозг задавальненне ў выглядзе кароткатэрміновага скачка ўзроўню дафаміну, які на гадзіну ці дзве падвышае настрой мужчыны і яго агульнае самаадчуванне. Нервовая сістэма ідэнтычна рэагуе і на іншае прывыканне, напрыклад, азартныя гульні ці какаін.

Вынік таксама аднолькавы: як азартныя гульцы і спажыўцы какаіну могуць на гэтай глебе «зарабіць» манію, якая патрабуе ўсё больш гульняў і ўсё больш наркотыку, мужчыны, якія спажываюць порна, каб атрымаць тое самае павышэнне дафаміну, таксама могуць «падсесці».

Пасля таго, як дафамін перастае дзейнічаць, спажывец адчувае расчараванне — раздражненне, трывогу і прагу перажыць задавальненне паўторна. Некаторыя даследаванні сведчаць пра тое, што ў жанчын — спажыўцоў парнаграфіі таксама назіраецца падобны эфект.

Уздзеянне дафаміну тлумачыць, чаму парнаграфія робіцца ўвесь час усё больш і больш жорсткай: звычайныя сэксуальныя вобразы хутка страчваюць сваю сілу, і каб зноў атрымаць задавальненне, спажыўцы патрабуюць выяваў, якія новымі спосабамі ламаюць новыя табу. Больш за тое, некатарым не хапае дафаміну, без якога іх мозг працуе не вельмі эфектыўна, і гэта робіць такіх людзей больш залежнымі ад жорсткага порна.

Як і ў выпадку з любой іншай залежнасцю, з прычыны пэўных нейрахімічных працэсаў аматару парнаграфіі складана адмовіцца ад сваёй звычкі, нават калі яна разбурае яго асобу, бо кожны раз яму патрабуецца чарговая доза дафаміну. Такі чалавек — не абавязкова маральная нікчэмнасць ці мярзотнік, ён проста не можа цалкам кантраляваць сябе.

Гэта не значыць, што такія людзі не адказваюць за свае паводзіны, проста гэта іншая адказнасць: адказнасць усведамляць магутны ўплыў парнаграфіі на ўласную асобу і шукаць спосаб вылечыцца, калі залежнасць пачынае замяняць сям'ю і кар'еру і ўплываць на меркаванні.

На сёння існуе эфектыўны і распрацаваны спосаб дапамагчы людзям, залежным ад парнаграфіі, і вярнуць іх да больш гарманічнага душэўнага стану.

Калі людзі ў гэтым свеце, якім больш і больш захлёствае самае жорсткае порна, пачынаюць разумець, як яно ўплывае на іх мозг і шкодзіць мужчынскай патэнцыі, яны могуць зрабіць выбар, заснаваны на пэўных ведах, а не бяздумна асуджаць сябе ці вострa рэагаваць на чужое шальмаванне.

**english.aljazeera.net**

МОТА-ВЕЛА

## На праспекце Незалежнасці ў Мінску намалююць веладарожку

Спецыяльная разметка для двухколавых удзельнікаў руху з'явіцца на тратуары ўздоўж праспекта, ад вуліцы Янкі Купалы да вуліцы Філімонава. Гэта амаль шэсць кіламетраў.

- Агульны прынцып такі: малюецца піктаграмы «ровар са стрэлачкамі», цвёрдага падзелу няма. На пераходах таксама малююцца веладарожкі, плюс вешаюцца адпаведныя знакі, — расказаў старшыня Мінскага веласіпеднага таварыства Яўген Харужы.

Ёсць надзея, што новаўвядзенне дадасць выгоды як пешаходам, так і веласіпедыстам. Апошнія змогуць перасякаць праспект па спецыяльнай разметцы, не спешваючыся, як патрабуецца цяпер. Вырашацца і праблемы з пераходам некаторых вуліц, якія скрыжоўваюцца з праспектам. Хутчэй за ўсё, нарэшце з'явіцца наземны пешаходны пераход праз вуліцу Макаёнка.

**Tut.by**

МЕЖЫ

## Рэканструкцыя Каменнага Лога

**Памежнікі раяць аб'язджаць гэты памежны пераход у ліпені і жніўні.**

Ад 4 ліпеня да 15 жніўня ў пункце пропуску «Каменны Лог — Меднікі» на беларуска-літоўскай мяжы з абодвух бакоў будзе праводзіцца планавы рамонт. Дарожнікі абмяжуюць колькасць палос для руху. А ад 7.00 16 жніўня да 7.00 23 жніўня пункт пропуску ўвогуле будзе закрыты. Гэта варта ўлічыць тым, хто едзе машынай у Літву .

У Дзяржпамежкамітэце Беларусі рэкамендуюць скарыстацца пунктамі пропуску «Катлоўка — Лаварышкі» і «Беняконі — Салечнікі».

**Паводле БелаПАН**

IN MEMORIAM

## Уладзімер Крушкін

Сумная навіна прыйшла з Магілёва. 25 чэрвеня 2011 пайшоў з жыцця адзін з найбольш актыўных сябраў мясцовай арганізацыі Партыі БНФ спадар Уладзімер Крушкін.

Ён нарадзіўся 24 красавіка 1956 г. у Магілёве. Скончыў там сярэднюю школу № 12 і ПТВ № 58. Працаваў на будоўлях. Меў чацвярых дзяцей. Захапляўся жывапісам і фатаграфіяй.

З канца 1990-х гадоў — актывіст Партыі БНФ, удзельнік усіх кампаніяў за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне беларусаў.

Вечная памяць!

**Ігар Лялькоў**

# Аграсэкс на Кастрычніцкай

Разам з выбранымі спевакамі на дыскатэцы БРСМ 29 чэрвеня на Кастрычніцкай плошчы сталіцы выступалі і напаўаголеныя дзяўчаты. У інтэрнэт-кам'юніці by_trash беларускіх красунь адзначылі тэгам «аграсэкс».

Дзяўчаты танчылі ў самым цэнтры цнатлівай беларускай сталіцы, таму шматлікія інтэрнэт-карыстальнікі былі сур'ёзна абураныя, што гэта маглі ўбачыць дзеці і падлеткі. Ды і што гэта за моладзь сёння ў БРСМ, што раздзяецца проста на вуліцы, задаюцца пытаннем «Беларускія навіны».

Некаторыя любяць дарэчы і недарэчы нагадваць пра танцы на костках. Дык вось, ці гэтыя агітатары за дыктатуру ўласным целам, што пазаліхвацку танчылі 29 чэрвеня на Кастрычніцкай, ці яны памятаюць, што два з паловай месяцы таму тут, роўна пад гэтым месцам, адбыўся жудасны тэракт (11 красавіка на станцыі метро «Кастрычніцкая»), што забраў 15 чалавечых жыццяў, каля 200 чалавек былі параненыя?

Здаецца, што не.

**СГ**





TUT.BY

**Хітом параду сталі закаханыя трактары. Старонка 8.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Спёку змянілі залевы.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У Мінску прайшло «Олдтаймер-ралі» — гонка на рэтра-аўтамабілях.**





**Трынаццаць гадоў таму ўласнікі невялікага прыватнага заапарка ў Сэн-Мартэн-ля-Плен (Францыя) П'ер і Эліян Тывільён «усынавілі» маленькую гарылу, ад якой адмовілася яе маці. Дзяўчынку назвалі Дыгіт і цяпер яна важыць 80 кг.**

## Анекдоты

***

На экзамене.

— Вы з Багдановічам знаёмыя?

— Не.

— З Купалам, з Коласам?

— Таксама не.

— Ну, можа, з Быкавым ці хоць з Караткевічам?

— Не.

— Да пабачэння!

Каля аўдыторыі пытаюць:

— Ну, як, прынялі?

— Не, тут толькі па блаце. А я, выходзіць, ні з кім не знаёмы...

***

Апарат абанента адключаны або знаходзіцца ў раённым аддзеле ўнутраных справаў.

***

Адбылася тэлефонная размова караля Іспаніі з каралём Беларусі.

***

Часцяком барацьба за чыстыя вуліцы сканчаецца разборкай руінаў.

***

Дэвіз негвалтоўнага супраціву: чым болей затрымаюць, тым болей атрымаюць!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нясвіж.** Здарылася мне быць і бачыць беларускі тэатр у Нясвіжы, пастаўлены Ігнатам Буйніцкім. Igралі «Моднага шляхцюка». Гэта тып жыўцом узяты, здаецца, з ваколіц нашага Нясвіжа, дзе нямала такіх паничоў, што і ад зямлі адарваліся, і да неба не далезлі. Вельмі трудна было І.Буйніцкаму з пазваленнем: слуцкі спраўнік даў, а пасля не дазволіў, так што Буйніцкі мусіў ездзіць прасіць пазвалення ў губернатара. Але і пасля таго былі розныя цяжкасці.

**«НН». № 25. 1911.**

**6 чэрвеня Валерыю Шчукіну** далі 10 сутак арышту за пратэст супраць абыякавасці да лёсу зніклых людзей падчас Усебеларускага сходу. Але адседзець яму гэтыя 10 сутак не давядзецца, бо 12 чэрвеня яго запраторылі ў турму на тры месяцы за непадпарадкаванне міліцыі. Паколькі выхад яму прызначаны аж на пасля выбараў, ён мае шанец быць выпушчаным на волю датэрмінова.

**«НН». №25. 2001.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

© **НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7335.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 05.07.2011.
Замова №3197.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12